ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 4 (2406) 26 студзеня 1995 г. Выдаецца з 1955 г
Цана 100 рублёў.

ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

# НЕЛЬГА НЕГРА ВІНАВАЦІЦЬ, ШТО ЧОРНЫ, альбо ЧАМУ МЫ ТАК ЖЫВЁМ



**Сённяшні наш субяседнік -- Леанід ДЗЕЙКА, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, член парламенцкай апазіцыі, член Грамады, адзін з тых, хто кіраваў Беларускім згуртаваннем вайскоўцаў (цяпер гэтая арганізацыя ўладамі забаронена), па адукацыі -- інжынер-электронік. Да выбрання ў парламент жыў і працаваў у Клецку.**

**Спадар Дзейка -- прыхільнік беларускай нацыянальнай ідэі, беларускай дзяржаўнасці, шчыра цікавіцца гісторыяй і культурай сваёй краіны і народа, разам з тым ён прафесійна займаецца палітыкай і таму імкнецца глядзець на падзеі і з'явы беларускай рэчаіснасці без ружовых акуляраў, рэальна і цвяроза.**

*-- Спадар Дзейка, можа тады пачнём размову з аналізу нашай ментальнасці...*

-- Дарэчы, гэтае цікавае слова ментальнасць запусціў у шырокі парламенцкі ўжытак Зянон Пазьняк, як, між іншым, і слова легітымнасць...

*-- І ўсё ж такі, ці існуе нейкая асобая беларуская ментальнасць -- ад Бога, ад прыроды, якая і прадвызначае ўсё, што сёння з намі адбываецца?*

-- Безумоўна, усе мы -- стварэнні Божыя, пад Богам жывём і пад Богам ходзім. Але нельга ж усё на Бога і звальваць. У тым ліку і некаторыя, сапраўды неад'емныя рысы беларусаў.

На першы погляд, можа здацца: мы нейкія абыякавыя звонку, але ж у душы беларусы разумеюць усё даволі дакладна. Проста ёсць такая ў нас рыса -- у вачах іншых не хочацца выглядаць наіўнымі ці крыху смешнымі. Можа таму большым аўтарытэтам у нас лічыць сябе той, хто сцвярджае: маўляў, усё роўна нічога не будзе, усё роўна ўсё прападзе, усё роўна крадуць, няма праўды і нічога няма... Жыццё -- такая рэч, што калі чалавек так кажа, то ў яго мала шанцаў не мець рацыі: радасці таму і з'яўляюцца радасцямі, што яны не частыя. Беларусы гэта добра разумеюць і ў адпаведнасці з такім разуменнем і паводзяць сябе. Але адчуванне, што ментальнасць беларуская нейкая крыху затарможаная, унутраная, правакуе некаторых нашых суседзяў на дзеянні, накіраваныя на тое, каб беларусаў і Беларусь пацягу "прыбраць да рук".

*-- Можа, так адбываецца таму, што ў нашым светаадчуванні сапраўды існуе нейкая правінцыяльнасць, якая якраз і падштурхоўвае да такіх дзеянняў у дачыненні да беларусаў?*

-- Мне здаецца, усё закладзена трагічным гістарычным вопытам Беларусі і яе народа. Колькі ўжо разоў адбывалася так, як пісаў адзін рускі класік: "К мечам рванулись наши руки, но лишь оковы обрели". Чамусьці заўсёды атрымлівалася, што ўспед за надзеямі для беларусаў наступаў вялікі перыяд занападу, расчаравання. Гэта не магло не адбіцца на нас. Але людзі, якія бачаць, разумеюць развіццё гістарычных падзей і працэсаў, імкнуцца давесці да іншых, што не можа ўвесь час існаваць на месцы Беларусі нейкая "чорная дзірка". Разам з тым, каб нарэшце да канца ўсвядоміць такія паняцці, як дзяржаўнасць, самастойнасць, трэба гэтых людзей не толькі разбудзіць, але і ім самім набрацца нейкай смеласці, нейкага адчаю, ці што...

*-- Ці можна "набрацца" таго, чаго магчыма не існуе?*

-- Але ж калі не гаварыць пра гэта, то шлях будзе толькі адзін -- уніфікацыя.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

АДЗЕННЕ ДЛЯ "СЯБРОЎ"

# СКАРБЫ ЦЭНТРА "СКАРБНІЦА"



**Пачатак размовы з дырэктарам Цэнтра беларускіх народных рамёстваў "Скарбніца" Мікалаем Тарлецкім пачаўся нетрадыцыйна. Першым пытанне задаў не карэспандэнт, а дырэктар: "Ці глядзелі вы па тэлебачанні праграму "Залатая ліра"!**

**Так, мне ўдалося паглядзець яе ад пачатку да канца. Атрымаўшы сцвярджальны адказ, Мікалай Пятровіч зноў спытаў: "Магчыма, вы звярнулі ўвагу на адзенне ансамбля "Сябры"!**

**Звярнуў то звярнуў. Нічога не скажаш: касцюмы прыгожыя, модныя. Але пры чым тут цэнтр рамёстваў!**

**Аказалася, што ён мае да артыстаў самае непасрэднае дачыненне. Гэта "Скарбніца" прапанавала ансамблю апрануцца ў адзенне, распрацаванае і пашытае ёю! Зусім нядаўна тут прынялі заказ на касцюмы і ад знакамітых "Харошкаў".**

(Заканчэнне на 8-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПЕРАД ВЫБАРАМІ*

## БЛОК ДЭМАКРАТАЎ

**Аб стварэнні перадвыбарчага блока дэмакратычных сіл заявілі прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Беларускай сялянскай партыі, Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі, Партыі Беларускага народнага фронту "Адраджэньне", Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі.**

**Блок утвараецца тэрмінам на 5 гадоў і захоўвае асноўныя прынцыпы сваёй дзейнасці на працягу работы нававыбранага Вярхоўнага Савета.**

**На час выбарчай кампаніі на базе перадвыбарчага камітэта БНФ ствараецца адзіны каардынацыйны орган для забеспячэння вылучэння па кожнай акрузе аднаго лепшага кандыдата ў дэпутаты з ліку сяброў вышэйназваных партый.**

**Кожная партыя, якая праведзе ў склад новага Вярхоўнага Савета неабходную для стварэння фракцый колькасць дэпутатаў, будзе мець права ўтварыць яе для абароны і рэалізацыі сваіх праграмных мэт.**

*САЦЫЯЛЬНА-ПСІХАЛАГІЧНЫЯ ЦЭНТРЫ*



**Пяць сацыяльна-псіхалагічных цэнтраў для пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы адкрыла ЮНЕСКА ў некаторых раёнах Расіі, Украіны і Беларусі. Адзін з іх размешчаны ў пасёлку Стрэшын Жлобінскага раёна.**

**Сёння ў Стрэшыне пражывае 1 500 чалавек. У асноўным гэта эвакуіраваныя з забруджаных радыяцыяй тэрыторый Гомельшчыны. Сацыяльна-псіхалагічны цэнтр, разлічаны на дзяцей і дарослых, -- новае для чарнобыльцаў паняцце. У адрозненне ад медыцынскіх устаноў тут лечаць не арганізм чалавека, а яго зраненую душу, якая перанесла так многа цяжару: страх перад небяспекай захварэць, пераезд на новае месца жыхарства, хваляванне за здароўе дзяцей і блізкіх і іншыя стрэсы.**

**НА ЗДЫМКУ: цэнтр сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі ў пасёлку Стрэшын.**

*"На жаль, немагчыма аднесці ў актыў дзейнасці цяперашняга ўрада тое, што яму не ўдалося знізіць інфляцыю. Хаця прэзідэнцкай Праграмай неадкладных мер па вываду рэспублікі з крызісу і праграмай, прадстаўленай Міжнароднаму валютнаму фонду, меркавалася ў снежні 1994 года знізіць яе на ўзровень 10 працэнтаў. У мяне пакуль няма дакладных даных аб узроўні інфляцыі ў снежні, але зусім відавочна, што гэты паказчык быў значна вышэйшы.*

*Узровень існуючых інфляцыйных працэсаў у першую чаргу звязаны з дэфіцытам плацёжнага балансу. У 1995 годзе даны паказчык ацэньваецца ў 800 мільёнаў долараў. Безумоўна, без збалансаванасці знешняга гандлю нам не ўдасца стабілізаваць курс нацыянальнай валюты. Увогуле, я разглядаю гэта як галоўную прычыну інфляцыі, росту цэн.*

*Урад можа ў любы момант рэзка знізіць разрыў плацёжнага балансу. Але толькі за кошт згортвання сацыяльных і прыярытэтных да іх праграм. Але хіба можна цяпер яшчэ больш урэзаць выдаткі на культуру, ахову здароўя, пенсійнае забеспячэнне? Па-мойму, далей ужо няма куды.*

*Увогуле, лічу, што жыццёвы ўзровень у Беларусі вельмі нізкі, і не згодны з тымі кіраўнікамі, якія, адстойваючы процілеглы пункт гледжання, прыводзяць довад: за папярэдні месяц на руках у насельніцтва засталося 200 мільярдаў беларускіх рублёў. Гэта не ва ўсяго насельніцтва, а ў асобных яго прадстаўнікоў! А ў большасці людзі маюць вельмі нізкі жыццёвы ўзровень.*

*Дэфіцыт плацёжнага балансу патрабуе знешняга фінансавання. Без яго мы ніяк не забяспечым баланс расходаў і даходаў, ніколі не спынім падзенне курсу беларускага рубля. Урад мог знайсці адпаведныя рэсурсы".*

*(З інтэрв'ю Міхаіла МЯСНІКОВІЧА, віцэ-прэм'ера Беларусі агенцтву "Інтэрфакс").*

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## ВЕРНУТЫ НА ДАПРАЦОЎКУ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка не падпісаў прыняты парламентам 21 снежня Закон "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь" і вярнуў яго з заўвагамі і прапановамі на дапрацоўку. Гэта першы выпадак, калі кіраўнік дзяржавы і парламентарыі разышліся ў думках па прычыне законапраекта. Зрэшты, пры абмеркаванні гэтага пытання некаторыя дэпутаты выказалі занепакоенасць, што Аляксандр Лукашэнка расцэніць "сацыяльныя гарантыі", дадзеныя сабе дэпутатамі, як прывілеі. Так яно і адбылося.**

**Але калі па выніках паўторнага абмеркавання не менш двух трацей дэпутатаў прагаласуюць за раней прынятае рашэнне, то Аляксандр Лукашэнка будзе вымушаны на працягу трох дзён падпісаць гэты законапраект, паколькі менавіта такія правілы вызначае Канстытуцыя.**

*ПЕРАД НЕБЯСПЕКАЙ*

## КАМІТЭТ У АБАРОНУ МОВЫ

**Створаны Беларускі каардынацыйны камітэт па абароне беларускай мовы. У яго ўвайшлі, акрамя Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, шэраг грамадскіх арганізацый, прафсаюзаў і партый.**

**Пытанне мовы -- пытанне жыцця і смерці нацыі, гаворыцца ў заяве Камітэта. Выступленне ў любой форме супраць беларускай мовы -- гэта агрэсія супраць беларускай нацыі. Даводзім да ведама ўсіх, што ў Беларусі ёсць людзі, якія абароняць беларускую мову і нацыю ўсімі магчымымі сродкамі.**

**Той, хто змагаецца супраць беларускай мовы, штурхае краіну да грамадзянскай вайны. Гэты чалавек -- або вар'ят, або самагубца, або амаральны авантурнік.**

**Камітэт звяртаецца да грамадзян краіны з заклікам паведамляць пра ўсе факты спробаў парушыць Канстытуцыю нашай краіны і статус дзяржаўнасці беларускай мовы з боку дзяржаўных чыноўнікаў у пракуратуру.**

*ДАРАГІ ПАДАРУНАК*

## ЖАРТАЧКІ З "САМІНАМ"

**Праваахоўчыя органы рэспублікі пачалі расследаванне па факту продажу ракетнага паліва "самін" пад выглядам прамысловага.**

**Ракетнае паліва "самін" падлягае вывазу ў Расійскую Федэрацыю з расфарміраваных і выводзімых расійскіх воінскіх часцей, часова размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Аднак у фірме "Істком", якая абавязала не толькі транспартаваць гэты кампанент, але і утылізаваць яго, не выкарыстоўваючы па прамому прызначэнню і не перадаючы трэцім асобам, адгрузіла на некаторыя беларускія прадпрыемствы некалькі чыгуначных і аўтамабільных цыстэрнаў моцнатаксічнага "саміна" пад выглядам прамысловага паліва. Пры гэтым былі груба парушаны ўмовы транспарціроўкі, захоўвання і аховы ядавітага кампанента. Адсутнічалі і спецыяльныя меры аховы рабочых, якія праводзілі разгрузку. У выніку некалькі чалавек атрымалі хімічныя апёкі.**

*ЦІ НЕ АПОШНІ РАЗ?*



**Шампіньённы комплекс калгаса "Чырвоны Сцяг" Баранавіцкага раёна -- сучаснае прадпрыемства, аснашчанае складанай тэхнікай. З пускам яго сем год назад рэспубліка атрымлівала ў год да 500 тон далікатэснай прадукцыі. Цяпер, не вытрымаўшы фінансавага прэса, унікальнае прадпрыемства пачынае згортваць сваю дзейнасць. Ужо не працуе палавіна камер, дзе вырошчваюцца грыбы. І можа здарыцца, што гэты новы год і Калядныя святы былі апошнімі, калі беларускія шампіньёны стаялі на святочных сталах.**

*НОВЫЯ ВЫРАБЫ*




**Першую партыю каляровых тэлевізійных прыёмнікаў выпусціў Брэсцкі электратэхнічны завод сумесна з адной з буйных польскіх фірм "Курціс-электронікс".**

**На прадпрыемстве за паўгода змаглі наладзіць зборку сучасных тэлевізараў, якім у рэспубліцы няма аналагаў. Цяпер поўным ходам ідзе рэканструкцыя цэхаў пад новую вытворчасць. А ў цэнтральных магазінах Брэста, куды паступілі тэлевізары, вывучаецца пакупніцкі попыт. Першыя апытанні паказалі, што навінка знойдзе свайго спажыўца.**

**НА ЗДЫМКУ: спецыялісты завода, якія ўдзельнічалі ў зборцы першай партыі тэлевізараў "Курціс", (злева направа) начальнік службы якасці Васіль СОІК, майстар участка Тадэвуш ЗАКІШЭЎСКІ, тэхнолаг Пётр АМЕЛЬЯНЮК, слесар-зборшчык Дзмітрый ВІННІК і рэгуліроўшчык радыёапаратуры Васіль ФЕЛЬДШАРУК з новай прадукцыяй.**

*ЛЫЖКА ДА АБЕДУ*

## БЕЛАРУСКІ ФОНД СОРАСА — МУЗЕЮ ЧЭРСКАГА

**Географы ўсіх краін свету, чытаючы лекцыі ва Усходняй Сібіры, сцвярджаюць: з Байкала выцякае толькі адна рака -- Ангара, упадаюць жа ў возера 333 малыя і вялікія рэчкі. Але мала каму вядома, што гэты падлік зрабіў наш зямляк, выдатны географ XIX стагоддзя Ян Дамінікавіч Чэрскі (1845--1892).**

**Ян Чэрскі праславіўся сваімі даследаваннямі ў геалогіі, гідраграфіі, палеанталогіі і іншых галінах навукі. Імя Чэрскага нанесена на карты свету ў назвах геаграфічных аб'ектаў Усходняй Сібіры.**

**У маі 1995 года спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння вядомага даследчыка. Музею Чэрскага, які знаходзіцца на радзіме вучонага, у вёсцы Вальніцы на Віцебшчыне, па ініцыятыве Віцебскага аддзялення Беларускага фонду Сораса выдзелена 10 тысяч долараў на абнаўленне і расшырэнне экспазіцыі, а таксама на праваздзенне навукова-даследчых работ.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

МЕДЫЦЫНСКІЯ работнікі Гомельскага медыка-генетычнага цэнтра навучыліся вырошчваць эмбрыёны ў прабірках і падсаджваць іх жанчынам, якія па розных прычынах не могуць зацяжарыць. Замежныя спецыялісты сцвярджаюць, што новую справу гамяльчане засвоілі на добрым узроўні.

ХЛЕБ са сваёй печы маюць на стале старыя Русаковічы -- пенсіянеры з вёскі Старыя Дарогі аднайменнага раёна. Дарагоўя прымусіла іх вярнуцца на пяцьдзесят год назад -- да натуральнай гаспадаркі: сваё жыта, свая печ, свой хлеб.

ПЕРШЫЯ чатыры тысячы трактароў "Беларусь", пастаўленыя летась у Пакістан, атрымалі станоўчыя ацэнкі і спецыялістаў, і сялян. Падпісаны кантракт на пастаўку яшчэ 9 тысяч трактароў мінскага завода.

ПРАФЕСІЯ таксіста стала ў Беларусі надта небяспечнай. Каб абараніць вадзіцеляў таксі, Дзяржінспекцыя працы звярнулася да Міністэрства транспарту і камунікацый з просьбай паспрыяць у распрацоўцы тэхнічнай дакументацыі для вытворчасці вопытных узораў легкавых аўтамабіляў-таксі з абгароджаным рабочым месцам.

ДЛЯ ЖЫХАРОЎ Друскінінкая і Ратніцкай апіліны Варэнскага раёна Літвы, дазволены бязвізавы ўезд на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь. Гэта будзе палёгка для тых, хто працуе ці вучыцца ў Беларусі, мае тут сваякоў.

ЭКАНАМІЧНЫ часопіс "Деловой вестник" прысудзіў тытул "Чалавек года-1994" старшыні Партыі Народнай згоды Генадзю Карпенку і прэзідэнту канцэрна "Амкадор" Васілю Шлындзікаву. Дарэчы, чалавекам 1993 года "Деловой вестник" назваў Біла Клінтана, Прэзідэнта ЗША.

**Калектыў рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы газеты КАЗЛОВАЙ Ірыне Канстанцінаўне ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю МАЦІ.**

**Красавіцкая ноч 1986 года. Водар квітнеючых садоў. Каравулу спецыялізаванай пажарнай часці нумар шэсць нават і не снілася, што за колькі гадзін здарыцца трагедыя сусветнага маштабу.**

**Сігнал трывогі. Паступіла паведамленне аб пажары на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. І тады 28 маладых, моцных і мужных хлопцаў паімчаліся да месца здарэння.**

**На мяжы чалавечых магчымасцяў змагаліся яны з агнём на 70-метровай вышыні машыннага аддзялення атамнага рэактара.**

**І ў найбольш небяспечных месцах быў хлопец з Брагіншчыны Васіль Ігнаценка. Сябры-пажарныя не вытрымлівалі напружання, гублялі прытомнасць. А Васіль усё адужаў.**

**Пажарныя перамаглі агонь. Не дазволілі яму ахапіць суседні трэці блок.**

**Пасля той трагічнай ночы нядоўга пражыў Васіль Ігнаценка. Скасіла хлопца радыяцыя. І асірацела хата, што на вуліцы Кастрычніцкай у Беразіно, дзе цяпер жывуць бацькі героя, якому было ўсяго 25 гадоў. Але не забылі пра іх сябры Васіля, яго саслужыўцы. Не забылі нават чужыя людзі, яны прыходзяць сюды, каб спагадаць гору бацькоў Васіля -- Таццяны Пятроўны і Івана Тарасавіча Ігнаценкаў, дапамагчы хто чым можа.**



**НА ЗДЫМКУ: віцэ-прэзідэнт асацыяцыі "Шчыт Чарнобыля" генерал-маёр міліцыі С. САЗАНКОЎ, старшыня фонду "Дзеці Чарнобыля", народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Г. ГРУШАВЫ і начальнік штаба Галоўнага ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы МУС падпалкоўнік А. РАКАЎ наведалі сям'ю Ігнаценкаў і ўручылі калядныя падарункі. Цяпер бацькі Васіля будуць таксама атрымліваць штомесячную грашовую дапамогу.**

**Фота Алены ПУСТАВОЙЦЕНКА.**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# НЕЛЬГА НЕГРА ВІНАВАЦІЦЬ, ШТО ЧОРНЫ, альбо ЧАМУ МЫ ТАК ЖЫВЁМ

У выніку чалавек быццам бы і на сваёй зямлі, і нават у сваёй дзяржаве, але называць яе будзе не краінай, а так, як у нас цяпер -- "наша рэспубліка", у такім чыста савецкім кантэксце.

Сам я па натуры хутчэй песіміст, але ўсё-такі лічу: нешта трэба рабіць. Неяк пачуў выраз: нельга на негра крыўдзіцца, што чорны -- ён такі ад прыроды. Вось мабыць і беларусаў трэба ўспрымаць такімі, якія яны ёсць, і мірыцца нават з такімі іх рысамі, як адсутнасць патрэбнага ўзроўню самапавагі, такой, якая існуе ва ўкраінца, летувіса, паляка. Гэта таксама наша сённяшняя нацыянальная рэчаіснасць. Гісторыя беларуская такая, лёс беларускі такі, што ўсе працэсы ў нас будуць развівацца эвалюцыйным шляхам, шляхам лавіравання...

*-- Такім чынам, усё, што мы маем сёння, заканамерна?*

-- Гэта расплата за тое, што рабілася стагоддзямі. На маю думку (хаця я гісторык непрафесійны, толькі аматар), некаторыя гістарычныя павароты рабіліся намі не ў той бок: заўсёды мы далучаліся да нейкай большасці і чамусьці баранілі інтарэсы гэтай большасці, мала таго, лічылі гэтыя інтарэсы сваімі. Потым непазбежна наступала разуменне, што ўсё-такі ў нас крыху іншыя інтарэсы. Неяк не ўдаецца Беларусі стаць самой па сабе. Яна заўсёды на нечым баку.

*-- Нярэдка ў жыцці гэта расцэньваецца як прыкмета слабасці...*

-- Хутчэй тут больш магутныя вонкавыя ўплывы з боку суседзяў: спачатку дамінаваў заходні фактар, потым усходні. Але сярод вынікаў такой павучальнай і даволі крыўднай гісторыі ёсць і "станоўчы": Беларусі сёння ніхто не можа прад'явіць тэрытарыяльныя прэтэнзіі. І ўжо вось тут нараджаецца ўсведамленне: нас абрэзалі па самыя вокны, далей няма куды, тое, што ёсць, -- наша, мы тут жывем так, як хочам, няхай не зусім добра, не зусім багата, але ж не ўсё адразу. Калі гэтае разуменне пераможа поўнасцю, тады справа нацыянальнага адраджэння зрушыцца, і з'явяцца гарантыі для ўсёй Беларусі.

*-- Вы ўпэўнены, што тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Беларусі выключаны?*

-- Калі яны ўзнікнуць, то гэта ўжо будуць хутчэй не прэтэнзіі, а імкненне розных дзяржаў уцягнуць Беларусь ці яе значную частку ў сферу свайго ўплыву ці інкарпараваць Беларусь у постсавецкую імперыю, якая імкліва адраджаецца. Для беларусаў доўга будзе яшчэ актуальным пытанне: з кім мы? Для большасці нашых людзей непрывычна раптам аказацца без нейкай падпоры. Наогул, для савецкага народа было натуральным: гайку робім тут, разьбу рэжам на Далёкім Усходзе, зашрубоўваем недзе ў Ташкенце -- і ўсё добра. Калі гэта знікла, а жыць адначасова стала горш, людзі сталі другое разглядаць, як вынік першага. Незалежнасць дасталася нам настолькі невялікай цаной, што можа таму не ўспрымаецца многімі як сапраўдная каштоўнасць. Нас літаральна выціснулі ў незалежнасць. Паважаныя старэйшыя расійскія браты не раз падкрэслівалі, што Дэкларацыю аб незалежнасці Беларусь прыняла праз паўтара месяца, як Расія абвясціла аб сваёй незалежнасці. Нам проста не было куды ўжо падзецца.

*--Але, як кажуць, "нельга даць тое, чаго не просяць". Ці не адбываецца нешта падобнае і з нашай дзяржаўнай незалежнасцю: не выспелі мы яшчэ для яе?*

-- Прасілі ці не прасілі -- тут складана сказаць, бо большасць людзей глядзела на ўсе гэтыя глабальныя працэсы праз нейкія бытавыя акуляры. Але існавала частка грамадства (звычайна тыя, хто меў доступ да гістарычных ведаў), прадстаўнікі якой разумелі тэндэнцыю гістарычных падзей і развіцця дзяржаў нават на працягу стагоддзяў. Так склалася, што менавіта гэтыя людзі сталі носьбітамі беларускай дзяржаўнай ідэі, ідэі незалежнасці.

Вось глядзіце, як атрымалася з сімволікай... У 91-м годзе сесія Вярхоўнага Савета зацвердзіла...

*-- Наўздзіў лёгка...*

-- Так, наўздзіў лёгка зацвердзіла новую дзяржаўную сімволіку. За гэтае рашэнне галасавала нават і пракамуністычная парламенцкая большасць. Простыя людзі таксама ў масе сваёй успрынялі перамену абыякава. Але прайшоў час, і паступова да новай сімволікі многія прывыклі, моладзь амаль цалкам успрыняла яе. Я не памятаю, каб у савецкія часы шафёры ўпрыгожвалі свае аўтамабілі выявамі тагачаснага бэсэсэраўскага сцяга або герба ці на стадыёнах размахвалі сцягамі балельшчыкі. Цяпер бел-чырвона-белае палотнішча -- неад'емны атрыбут падтрымкі сваёй каманды. Можна сказаць, што ўсё гэта дробязі. Так, але гэтыя дробязі ёсць адначасна і праявы нашага жыцця, сведчанні таго, што цяперашнія беларускія герб і сцяг паціху, але арганічна ўваходзяць у наша жыццё. І зараз ужо смешна выглядаюць патугі тых асоб, хто галоўнай мэтай свайго жыцця бачыць вяртанне старой савецкай сімволікі. Гэтыя людзі звычайна раней займалі высокія пасады і ў дзяржаве, і ў войску, а найбольш на розных "ідэалагічных франтах". Прысвоіўшы сабе манапольнае права гаварыць ад імя мільёнаў суграмадзян, на самай справе яны прадстаўляюць толькі невялікую групу жыхароў Беларусі. Мільёны людзей, у першую чаргу, хвалююць зусім іншыя праблемы: як бы палепшыць медыцынскае абслугоўванне, сацыяльнае забеспячэнне, гандаль, павысіць пенсіі. І можа толькі аднаго з тысячы турбуе аднаўленне сімволікі, і то, мне здаецца, ён хутчэй толькі пабурчэў бы і забыўся пра гэта. Але ж не даюць забыцца... Вось апошні прыклад: Вярхоўны Савет уключыў у парадак дня разгляд пытання аб аднаўленні сёмага лістапада, як дзяржаўнага свята. Ну хіба не смешна? Але, здаецца, мы крыху адышлі ад тэмы размовы.

*-- Зусім не. Бо тое, што вы казалі, -- розныя праявы адной і той жа сённяшняй вялікай праблемы -- згортвання самой ідэі нацыянальнага і дзяржаўнага развіцця Беларусі.*

-- Скажам так, сёння з-за складаных умоў назіраецца пэўны адкат у яе развіцці.

Я нават разумею тых людзей, хто не мае адпаведнага адукацыйнага ўзроўню альбо спыніўся ў сваім адукацыйным працэсе -- ім цяжка дакладна зразумець некаторыя рэчы, але ж тады няхай бы яны не перашкаджалі іншым, тым, хто глыбока, усур'ёз успрыняў тую дзяржаўную палітыку, што на пэўным этапе пачала паступова складвацца ў дачыненні да нацыянальнага адраджэння, мовы, культуры, спрыяла аднаўленню таго, што ледзь-ледзь не было страчана навекі.

*-- Цяпер сітуацыя з беларускай мовай і культурай складваецца так, што мы рызыкуем зноў аказацца там, дзе былі пяць-дзесяць гадоў назад.*

-- Так. Але ўсё ж хочацца спадзявацца, што гэтага не здарыцца. Ну павінны ж, нарэшце, вышэйшыя дзяржаўныя чыны, якіх людзі падтрымалі, з якімі звязалі надзею на навядзенне парадку ў дзяржаве, на паляпшэнне жыцця, дабрабыту, а замест гэтага маюць толькі бясконцыя нападкі на беларускую мову, культуру, павінны ж тыя дзеячы калі-небудзь зразумець, што так нельга, што трэба ж калі-небудзь спыніцца і надаць больш увагі і намаганняў выкананню сваіх перадвыбарных эканамічных абяцанняў. А пытаннямі моўнага і культурнага адраджэння няхай бы займаліся тыя, хто ў іх разбіраецца.

*-- Але ж, на жаль, у сваіх антыбеларускіх "моўна-культурных доследах" наша цяперашняе кіраўніцтва знаходзіць падтрымку ў значнай часткі насельніцтва. Зноў спрацоўвае славутая беларуская ментальнасць?*

-- Хутчэй постсавецкая ментальнасць.

Мне здаецца, што нашых кіраўнікоў таксама можна зразумець: абяцана ж народу шмат, а пэўных зрухаў да лепшага пакуль не назіраецца. Сумна, што разам з тым прэзідэнт выбраў сваім "ідэалагічным" лозунгам: я -- адзін за народ, а ўсе астатнія, тыя, што прайгралі, аб'ядналіся супраць мяне, адзінага народнага прэзідэнта, і ўсімі сіламі перашкаджаюць. Калі гэта слухаеш, то першы раз можна паверыць, але калі чуеш такія абвінавачванні зноў і зноў, то нават самы наіўны чалавек зразумее, што тут нешта не тое.

*-- Мне здаецца, апошнім часам асаблівую непрыязнасць прэзідэнт выказвае ў адрас БНФ.*

-- Так, але сітуацыя тут склалася нават парадаксальная: камуністы абвінавачваюць прэзідэнта ў тым, што ён нібыта ў сваёй палітыцы праводзіць лінію БНФ.

Але я лічу, што паміж сённяшнім беларускім кіраўніцтвам і тым, што было дагэтуль, прынцыповай розніцы няма. Яны -- галінкі аднаго дрэва. Толькі маладзейшыя і больш напорыстыя здолелі адціснуць крыху згубіўшых развароатлівасць старэйшых папярэднікаў. Але ні тыя, ні іншыя не ў стане ажывіць грамадства і дзяржаву. Як Вячаслаў Францавіч, так і Аляксандр Рыгоравіч эксплуатуюць адны і тыя ж лозунгі: "голаду мы не дапусцім", "холаду мы не дапусцім". Ну а калі ўжо будзе зусім увачавідкі эканамічны тупік, то, думаю, з'явіцца апошні, рэзервовы лозунг -- "толькі б не было вайны", тым больш наш неспакойны "старэйшы брат" увесь час паказвае, што вайну можна распачаць там, дзе, здавалася б, проста немагчыма: нават унутры сваёй дзяржавы. Дзіўна, хутка ўжо пойдуць на пенсію людзі, якія нарадзіліся пасля вайны (амаль пяцьдзесят год жывём у міры), а нашы ўлады ўсё трымаюць нас у страху і напружанні ваеннай пагрозай. Цяпер, як і раней, кіраўніцтва імкнецца захаваць за сабой самае галоўнае -- размеркавальную функцыю, прычым метадамі выключна адміністрацыйна-аўтарытарнымі. Яскравы прыклад таму, а фактычна прыклад недаверу народу, стварэнне вядомай прэзідэнцкай "вертыкалі". Атрымліваецца так, што народу хапіла розуму выбраць добрага прэзідэнта, але выбраць сабе кіраўнікоў у гарадах і раёнах людзі не ў стане, прэзідэнт усіх назначае сам.

У дадатак да гэтага як кіраўніцтва Кебіча, так і кіраўніцтва Лукашэнкі эксплуатавалі і эксплуатуюць адны і тыя ж міфы: першы -- разарваныя эканамічныя сувязі; другі -- у нас нічога свайго каштоўнага няма і трэці -- нас нідзе не чакаюць. Скажу толькі пра адно. Наогул, тыя дзяржавы, якім выпала ўсталявацца недзе на нафце, золаце, уране і г.д., невядома ці яшчэ шчаслівыя ад гэтага: яны заўсёды знаходзяцца пад пільнай увагай суседзяў і нават робяцца аб'ектамі агрэсіі. Можна прыгадаць Кувейт, сёння -- тую ж Чэчню. Дзяржавы, якія не маюць вялікіх прыродных рэсурсаў, жыццё вымушае знаходзіць сваю нішу ў навукова-тэхнічнай вытворчасці.

*-- Але каб знайсці тую нішу, трэба ўсім нам адчуць патрэбу быць у нечым першымі, лепшымі за іншых.*

-- Так, і трэба цаніць "мазгі" сваёй краіны. Бо калі гэтага няма, робіцца стаўка на кайло, кірку, тачку... І што нас нідзе не чакаюць. А каго чакаюць? Ніводнай краіне ні на адным рынку збыту не падносяць хлеб-соль. Сваё месца пад сонцам трэба знайсці самім і яшчэ даказаць свае правы на яго. А калі здолеем гэта зрабіць, то і адносіны да нас будуць зусім іншымі. Але перш-наперш трэба самім сябе паважаць і высока цаніць.

*-- Дзякуй, Леанід Іванавіч, за размову. Здаецца, тэма яе бясконцая. Але галоўнае, каб урэшце быў нейкі плён.*

-- А я, выкарыстоўваючы выпадак, праз газету хачу перадаць словы прывітання ўсім нашым землякам, усім, з кім сустракаўся падчас нядаўняй паездкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ І АЧАРНЕННЯ

# ЯК СЛУЧАКІ БАРАНІЛІ СВОЙ ДОМ

З'езд Случчыны адбыўся 15--16 лістапада ў Слуцку ў доме Э.Вайніловіча, фундатара Чырвонага касцёла ў Мінску. У зале панаваў святочны настрой.

Па выніках галасавання ў прэзідыум высокага сходу былі абраны В.Русак (старшыня), П.Жаўрыд, У.Пракулевіч, У.Дубіна і Урбановіч (сакратары). А.Паўлюкевіч паспрабаваў пратэставаць, але другое галасаванне не змяніла складу прэзідыума. (Па выніках першага галасавання ў склад прэзідыума ўвайшлі тыя ж людзі, толькі старшынёй спачатку быў абраны П.Жаўрыд.

Увесь першы дзень гучала інфармацыя з месцаў. (Як засведчыў У.Пракулевіч, пратаколы з'езда былі ў яго адабраны падчас арышту польскімі жандарамі ў красавіку 1921 года ў Вільні). Спачатку адчувалася некаторая стрыманасць і асцярожнасць з прычыны нявызначанасці становішча, але ўсё мацней выказвалася думка аб неабходнасці самастойнага гаспадарання ў сваім доме. Вялікае абурэнне выказалі сяляне шматлікімі павіннасцямі: вайсковай, коннай, працоўнай, харчовай і г.д. Разбурала гаспадарку харчразвёрстка на бульбу, мяса, масла, яйкі, воўну. Харчатрады бралі як мага больш. Узамен нічога. Адзін за адным выступалі пакрыўджаныя сяляне, выказваліся супраць чужой улады і толькі за тую, якую самі выберуць.

У парадку другога дня з'езда стаялі даклад Нацкамітэта і пытанне сучаснага моманту. З дакладам выступіў доктар А.Паўлюкевіч, які далажыў прысутным аб ходзе падрыхтоўкі ваеннай акцыі. Гарачую агітацыйную прамову трымаў паручнік Мацелі, заклікаў не марудзіць, развярнуць фронт супраць бальшавікоў. Катэгарычна супраць баявой акцыі, як бяссэнсавай і крывавай, выказаўся Няронскі, дэлегат з Вызны. (Не блытаць з другім Няронскім, сябрам Рады, загадчыкам гаспадаркі Беларускай брыгады).

"И в этот момент, -- як успамінаў у ДПУ У.Пракулевіч, -- запыленные эффектно влетают на сцену делегаты, вернувшиеся от Балаховича, капитан Самусевич и Крыжановский, а с ними двоюродный брат "батьки"... (Юзэк Балаховіч, у 1922 годзе быў забіты чырвонымі партызанамі ў Белавежскай пушчы). Не обращая внимания на протесты президиума, предлагавшего записаться в очередь и не прерывать порядка дня, они апеллируют к съезду. Порядок дня прерывается, собрание желает выслушать новоприбывших, которых встретило овациями, когда узнало, что это делегация от Балаховича. Выслушаны они были в чрезвычайной тишине, прерываемой громкими аплодисментами..." Нягледзячы на эсэраўскую непрыхільнасць, "сялянскі бацька" карыстаўся вялікаю папулярнасцю. Шмат хто з сялян, запісваючыся ў Беларускую брыгаду, быў упэўнены, што ідзе пад штандары генерала Булак-Балаховіча.

Далі слова Антону Самусевічу. Ён падзяліўся ўражаннямі ад сустрэч з генералам, падкрэсліў, што Булак-Балаховіч беларус па паходжанню і па духу. Яго армія рушыць пад сцягам незалежнай Беларусі, за зямлю і волю сялянства. Самусевіч паведаміў, што войска моцнае, хутка расце колькасна, папулярнае сярод беларусаў. Самусевіч далажыў таксама, што "бацька" даручыў яму сфарміраваць тут, на Случчыне, вайсковую адзінку.

Потым зачыталі заклікі і дэкларацыі Булак-Балаховіча, Савінкава і Беларускага палітычнага камітэта за подпісам старшыні БПК Вячаслава Адамовіча.

Шмат пытанняў дэлегаты мелі да Юзэка Балаховіча. Ён растлумачыў, што генерал з'яўляецца галоўнакамандуючым усіх узброеных сіл на Беларусі, колькасць якіх дасягае 60 тысяч чалавек, нядрэнна ўзброеных. Войска мае артылерыю, кавалерыю, багатую амуніцыю.

Баявы дух ахапіў сход. Здавалася, вос-вось з бальшавізмам будзе пакончана.

Прэзідыум звяртае ўвагу ўсіх прысутных, што яны не на мітынгу і трэба вярнуцца да дзелавога абмеркавання пытанняў. Дачакаўшыся цішыні, заяву зрабіў П.Жаўрыд. Ён зачытаў мандат паўнамоцнага камісара ўрада БНР ад Найвышэйшай Рады, растлумачыў пазіцыі Рады адносна Савінкава, абаронцы адзінай і недзялімай, і Алексюка, на яго думку, палітычнага авантурыста, не маючага шырокай падтрымкі беларускіх колаў. А яго заява аб фарміраванні ваенных сіл БНР была сустрэта моцнымі воплескамі. Аналізуючы ход з'езда, нельга не прыйсці да высновы, што галоўная турбота -- гэта барацьба з бальшавікамі, а з кім спалучацца -- для большасці праблемы такой не існавала.

Дыскусійным было пытанне: аб'яўляць Случчыну незалежнай рэспублікай ці часткай БНР. Апошні пункт гледжання, не вельмі прыемны для Польшчы, адстойвалі эсэры. Іх пазіцыя перамагла. Гэта знайшло адлюстраванне ў рэзалюцыі побач, дарэчы, з ухваламі ў адрас Пілсудскага і Балаховіча.

З'езд не падтрымаў прапанову У.Пракулевіча абмежавацца толькі ўзброенай дэманстрацыяй сіл народнай міліцыі, калі прыйдуць Саветы, не выходзячы з горада і не распачынаючы баявых дзеянняў. Настрой быў адзіны -- ваяваць!

У рэшцэ рэшт з'езд прызнаў Случчыну часткай БНР, выбраў Раду, якой і даручыў усю ўладу і арганізацыю вайсковых адзінак. У Раду Случчыны ўвайшлі 17 чалавек: П.Жаўрыд, А.Паўлюкевіч, Мацелі, У.Дубіна, В.Русак, Т.Раковіч, Радзюк, Ю.Сасноўскі, Я.Біруковіч, Ю.Лістапад, Анцыповіч, У.Пракулевіч, Рабый, А.Кабычкін, У.Калпак, Мяшочак, Няронскі. Кандыдатамі былі выбраны С.Бусел, М.Дубіна, Урбановіч.

Тыдзень пасля з'езда Слуцк бурліў. Працягваліся перамовы з палкоўнікам Ясінскім. Польскія ўлады чакалі запрашэнняў яшчэ пагасцяваць у павеце. Але з'езд расчараваў іх, выявіўшы свой незалежніцкі твар, нягледзячы на ўпартыя намаганні балахоўцаў. Ды перавага незалежнікаў была мінімальнай. Пры галасаванні за кандыдатуру старшыні Прэзідыума Рады Пракулевіч атрымаў большасць усяго ў адзін голас у параўнанні з Паўлюкевічам. 17 лістапада Прэзідыум Рады -- Пракулевіч (старшыня), Паўлюкевіч, Жаўрыд, Мацелі, Русак, Біруковіч і Сасноўскі -- пачаў працаваць.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 50—52 (1994 г.), №№ 1—3.**

З УСПАМІНАЎ

# ДОБРЫ ДАРАДЦА

Я сустрэўся з Людмілай Краскоўскай у Браціславе. Адрас яе мне даў незабыўны Генадзь Каханоўскі. Ведаў, што яна -- дачка дзяржаўнага і палітычнага дзеяча, педагога Івана Краскоўскага (1880--1955). Людміла Іванаўна даўно супрацоўнічае з пісьменнікамі, навукоўцамі, бібліятэкамі Беларусі. Перадала многа каштоўных матэрыялаў на радзіму бацькі. І мне таксама паспрыяла сваімі згадкамі, калі ў "Голасе Радзімы" друкаваўся раман Віктара Вальтара "Роджаныя пад Сатурнам" -- пра жыццё і дзейнасць беларускай эміграцыі ў даваеннай Чэхіі, пра вучобу нашае моладзі ў навучальных установах Прагі.

У адным з леташніх лістоў Людміла Іванаўна паведамляла:

"Шаноўны пан Сяргей!

Вы пісалі ў пісьме з 22.9.1993 г., каб я прыслала ўспаміны пра Беларускую гімназію ў Дзвінску, вучобу ў Празе і пра сустрэчы з беларусамі. Пра жыццё беларускіх студэнтаў у Празе дакладна напісаў У. Калеснік ("Пражскі эпісталярый", Полымя, 1990 г., NN 9 і 10), таму не трэба пра гэта пісаць. Я напісала кароткія ўспаміны пра Беларускую гімназію ў Дзвінску, якія Вам пасылаю. Буду рада, калі надрукуеце мае ўспаміны і прышляце мне копію. Калі ласка, скантралюйце маю стаццю: я пішу яшчэ па М. Гарэцкаму. Я магла б напісаць і пра Беларускую гімназію ў Вільні, дзе я вучылася ў 1921--22 школьным годзе...

Усяго найлепшага! Л. КРАСКОЎСКАЯ."

І вось у чарговым пісьме з Браціславы я атрымаў успаміны пра Дзвінскую беларускую гімназію, а крыху пазней -- і пра гімназію ў Вільні. Калі там нядаўна святкавалі юбілей гэтага асяродка асветы, згадалі і пра Л. Краскоўскую.

Я даўно збіраю матэрыялы пра культурна-асветную дзейнасць беларусаў у даваеннай Латвіі, таму ўспаміны Людмілы Іванаўны "падсвечаны" фотаздымкамі з майго архіва.

Застаецца нагадаць, што нядаўна Людміле Іванаўне споўнілася 90 гадоў. Публікацыя яе ўспамінаў -- гэта і маленькі падарунак да яе юбілею. А хто хоча асабіста напісаць ёй, паведамляю адрас:

**L. Kraskovska. Ul. Prokopa Vel'keho, 47. 81104. Bratislava. Slovensko.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

# 1. АБ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ Ў ВІЛЬНІ

Беларуская гімназія ў Вільні змяшчалася ў будынку старога манастыра блізка слаўнай Вострай брамы. Гэта быў вялікі гмах -- комплекс будоў; каля гімназіі знаходзіўся прытулак для вучняў з вёсак (хлапцоў і дзяўчат), галоўнае з Гродзеншчыны. Апрача гімназіі і прытулку там знаходзіўся Беларускі нацыянальны камітэт, рэдакцыя газеты "Беларускія ведамасці" і праваслаўная духоўная семінарыя разам з праваслаўным жаноцкім манастыром.

Наша сям'я выехала з Вільні падчас першай сусветнай вайны ў 1915 годзе, а павярнулася да Вільні восенню 1921 года. Усе гэтыя гады мы жылі на Украіне, на Каўказе ў Грузіі і вярталіся назад доўгаю і складною дарогаю па мору, а пасля праз Вену, Берлін і Каўнас. Мы прыехалі ў Вільню восенню 1921 года, і я адразу паступіла ў сёмую клясу Беларускай гімназіі. Дырэктарам гімназіі тады быў Браніслаў Тарашкевіч, які адначасна выкладаў беларускую мову. Намеснікам дырэктара быў малады ксёндз Адам Станкевіч (у якога былі закаханы многія вучаніцы). Гісторыю Беларусі ў першым паўгоддзі выкладаў Іван Краскоўскі. Пасля яго высылкі з Польшчы гісторыю вучыў І. Красінскі, ён быў і настаўнікам у сёмай клясе. Матэматыку вёў С. Рак-Міхайлоўскі, беларускую літаратуру вельмі добра выкладаў Максім Гарэцкі, а польскую меў старшы ксёндз Бабіч. Французскую мову выкладаў вучыцель-француз, я не памятаю яго імя.

Я вучылася добра, мела толькі цяжкасці з польскай мовай. Я пазнала польскую літаратуру, хутка навучылася гаварыць па-польску, але не ведала граматыку. А пасля арышту бацькі я не намагалася навучыць граматыку і правільна пісаць. Ксёндз Бабіч добра адносіўся да мяне і нават гаварыў: "Чаму ты не адпісала ад суседак, якія добра ведаюць граматыку?" З усіх прадметаў я атрымала пяцёркі, толькі з польскай мовы я мела слабую тройку, а гэта ацэньвалі як сабатаж.

Склад вучняў у нашай клясе быў даволі разнародны: апрача беларусаў -- Лявона Рыдлеўскага, Уладзіміра Калаўра, Ільляшэвіча, там былі два літвіны -- браты Арнольд і Яўген Дылісы, Леанід Менке з нямецкай сям'і і дзве альбо тры жыдоўкі. Паміж дзяўчат у гэтай клясе вучылася Люба Вернікоўская, Наталля Арсеньнева і Зіна (не прыгадаю яе прозвішча). Яны сядзелі каля мяне за першымі партамі. Вучні трымаліся дружна, дапамагалі адзін аднаму, у клясе не адчуваліся нацыянальныя пытанні. У Вільні, апрача польскіх школ і Беларускай гімназіі, існавала яшчэ літоўская і жыдоўская гімназіі. Вучні ў гімназіях не мелі спецыяльную адзежу, але адрозніваліся рознакалёрнымі "батурувкамі", якія насілі на галаве. Беларуская гімназія мела "батурувкі" фіалавага колеру, а літоўская, здаецца, зялёнага.

Адзін раз з групай вучняў нашай клясы сталася непрыемнае здарэнне. Не прыйшоў якісь вучыцель, мы мелі вольную гадзіну і пайшлі на трэці паверх на карыдор, дзе паўтаралі ўрокі. Хтось паціху зацягнуў песню, а пасля мы на поўны голас заспявалі: "Ешчэ Польска не згіненла, але згінуць мусі. Як не здола москаль, немец, так халера здусі"! У гэты момант нечакана з'явіўся ксёндз Адам Станкевіч і пачаў нас дакараць: "Ці вы хочаце, каб нашу гімназію зачынілі? Каб гэта рабілі дзецюкі, але вы -- перад атэстатам сталасці?" Дарэмна мы казалі, што там нас ніхто не пачуе. Нарэшце вучні выбралі мяне і Яўгена Дыліса як дэлегатаў, і мы ўпрасілі ксяндза Станкевіча, каб нам прабачыў гэтае глупства і не даваў на педагагічную раду.

Перад Калядамі спакойнае жыццё ў гімназіі парушыў трагічны выпадак -- загінуў Арнольд Дыліс. Вучні старшых клясаў рабілі ў будынку гімназіі ў суботу вечарыну. Браты Дылісы вярталіся дамоў позна, яны не мелі ключа ад брамы і хацелі пералезці праз плот. У гэтым часе там праходзіў польскі патруль ваякаў. Яны закрычалі: "Стой"! Яўген паспеў саскочыць уніз, а Арнольд затрымаўся на агароджы. Ваяк выстраліў і на месцы яго забіў. Я не была на вечарыне. Мы мешкалі далёка ад школы, і я баялася ўвечары сама вяртацца дадому. У нядзелю ранкам за бацькам прыйшлі вучні і распавядалі, што здарылася. Гэта нечаканая бяссэнсавая смерць Арнольда зрабіла на ўсіх у гімназіі вельмі цяжкае ўражанне.

У адным пакоі будынка манастыра (здаецца, там раней была капліччка) змяшчаўся музей. Яго арганізаваў Іван Луцкевіч, захоплены старадаўняю гісторыяю Беларусі. Ён сабіраў розныя старыя прадметы. Найбольш там знаходзіліся кнігі, розныя старыя выданні, галоўным чынам рэлігійнага зместу. Я дапамагала І. Луцкевічу ў музеі -- чысціла і ўкладала кніжкі. Аднойчы І. Луцкевіч звярнуў маю ўвагу на вялікую дзіўную кнігу і казаў, што гэта "Аль-Кітаб" -- свяшчэнная кніга татараў, якія жылі на Беларусі. Калі палякі зліквідавалі гэты музей, яны аддалі кніжкі да універсітэцкай бібліятэкі ў Вільні. Цікава, ці захаваўся "Аль-Кітаб" і дзе цяпер знаходзіцца? Праца ў музеі І. Луцкевіча дала карэнні маёй музейнай дзейнасці, якая запоўніла цэлае жыццё.

Перад Новым 1922-м годам у нашай кватэры сабралася група беларускіх дзеячаў, каб спаткаць Новы год. Я памятаю, што паміж імі быў Антон Луцкевіч (ён быў стары прыяцель бацькі), ксёндз Адам Станкевіч (мяне здзівіла, што ксёндз паводзіў сябе як звычайны малады хлапец). Гэтае спатканне вызначалася прыемным прыяцельскім настроем. Перад Новым годам бабуля з маёй дапамогай два дні пякла пірагі розных гатункаў, так што гасціна на тагачасныя ўмовы была даволі багатая. Але аптымістычныя надзеі на будучыню беларускага грамадскага жыцця ў Вільні хутка былі знішчаны. На пачатку 1922 года беларуская і літоўская грамадскасць перажыла цяжкія часы. Польская ўлада генерала Жэлігоўскага, які забраў Вільню ў 1921 годзе, арыштавала большасць выдатных беларускіх і літоўскіх дзеячаў (так званы працэс 33-х). Іх пасадзілі ў турму на Лукішках. Не адбылося ніякага судовага працэсу, але хадзілі ўсялякія палахлівыя чуткі, што з імі могуць зрабіць.

Гэтую акцыю польскія паліцыянты праводзілі вельмі жорстка. Ранкам паліцыя абкружыла ўвесь комплекс будынкаў Беларускай гімназіі і іншых беларускіх установаў. Кожны мог уваходзіць, але нікога не выпускалі з будынкаў манастыра. Паліцыя рабіла вобыскі ў памяшканні Беларускай гімназіі, рэдакцыі газеты і нават у прытулку. Гэта "дзейнасць" цягнулася вельмі доўга. Малодшыя вучні, калі скончылася вучоба, хацелі адысці дадому, але іх не пускалі. Дзеці плакалі і намагаліся перабегчы каля паліцыянтаў. Да нашай кватэры прыйшла паліцыя з вобыскам аж па абедзе, разам з бацькам. Не памятаю, што ў нас знайшлі, але бацьку адразу забралі ў турму. Маці хадзіла на Лукішкі і насіла бацьку перадачы.

Уначы 5 лютага арыштаваных прывезлі да іх сем'яў і казалі, каб з імі развіталіся. У нашай сям'і гэтае развітанне прайшло спакойна: паліцыянт сказаў, каб бацька ўзяў патрэбныя рэчы, таму што яго адвязуць на іншае мейсца. Але ў некаторых сем'ях адбыліся страшныя сцэны. Паліцыянты казалі, што арыштаваным не трэба нічога даваць, таму што яны ўжо нічога не будуць патрабаваць.

Ранкам да нас к маці прыбегла некалькі жанчын і пыталіся, як было ўначы. 6 лютага 1922 года ўсіх 33 арыштаваных адвезлі на польска-літоўскую граніцу і выгналі да Літвы. Яны не маглі ўжо павярнуцца да Вільні. Яшчэ ў гэты самы дзень мы даведаліся, што бацька і іншыя дзеячы знаходзяцца ў Каўнасе, дзе іх добра прынялі і паклапаціліся аб іх улаштаванні. Пасля аканчання школьнага года наша сям'я выехала з Вільні і пераехала да Дзвінска, у Латвію.

**Людміла КРАСКОЎСКАЯ.**

305

**БАРАЦЬБА З ХУТАРАНАМІ-АДНААСОБНІКАМІ.** У 1938—1939 гадах раскулачванне дапоўнілася ліквідацыяй хутароў, яшчэ адным гвалтам над сялянамі. Толькі за 1938 год больш за 20 тысяч сялянскіх гаспадарак было перацягнута на цэнтральныя сядзібы, а дагледжаныя землі засталіся без гаспадароў. На новым месцы толькі палова хутаран атрымлівала жыллё, а астатнія туляліся без даху над галавой да паўгода.

**КАЛГАСНАЕ ЖЫЦЦЁ.** Калектывізацыя ды індустрыялізацыя, што праводзіліся за кошт сялян, рабілі вясковае жыццё невыносным. Людзі не маглі змірыцца з калгаснай безгаспадарчасцю, ураўнілаўкай і злодзействам. Дохла без дагляду жывёла, заставаўся на полі несабраны ўраджай, абагуленая маёмасць раскрадалася і прапівалася калгаснымі старшынямі, іх сваякамі і сябрамі. Назначаныя раённым начальствам старшыні адчувалі сябе маленькімі князькамі, здзекаваліся з людзей — білі, штрафавалі, пагражалі арыштам, здымалі са сцен іконы, закрывалі цэрквы, не давалі коней для асабістых патрэб. І калгаснікі аралі на сабе. Сялянцы ж Ельненскага сельсавета Хоцімскага раёна прыйшлося запрагчыся ў калёсы, каб прывезці хворага мужа ў бальніцу (1938 год). Асабліва лютавалі расійскія дваццаціпяцітысячнікі, прысланыя наводзіць тут калгасныя парадкі. У 1931 годзе мясцовыя ўлады нават былі вымушаны 65 такіх памагатых аддаць пад суд за злоўжыванні.

На працягу сельскагаспадарчага года за пра-

306

цу калгаснікам налічвалі працадні, ставілі адзнаку ("палачку") аб прысутнасці на рабоце ў той ці іншы дзень. А потым, у адпаведнасці з колькасцю працадзён, атрымлівалі з калгасных засекаў сельскагаспадарчыя прадукты. Але безгаспадарчасць і абавязковыя дзяржаўныя нарыхтоўкі часта прыводзілі да таго, што для дзяльбы заставалася адна мякіна. Калгасныя заробкі ў большасці выпадкаў не пракормлівалі сялян, колькі б працадзён яны ні мелі.

Па прыкладу дарослых 22 вучні Слабадской школы Мазырскага раёна стварылі свой "дзіцячы калгас". Кралі, прадавалі, а за гэта налічвалі працадні. Больш удачлівыя прэміраваліся.

**ЭКАНАМІЧНЫ КРАХ ПАЛІТЫКІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ.** Прымусовая калектывізацыя абярнулася сельскагаспадарчым крызісам. У 1932 годзе ўраджайнасць асноўных сельскагаспадарчых культур знізілася на 6—23 працэнты, рэзка скарацілася пагалоўе жывёлы. Вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі з 1926 па 1932 год паменшылася больш чым на чвэрць. Беларускія сяляне сталі харчавацца горш, чым у гады нэпа. Дзяржаўныя цэны на збожжа і іншыя прадукты не кампенсавалі затрат на іх вытворчасць. Яны ў 10—12 разоў былі ніжэйшымі за рыначныя. У пачатку 1932 года голад ахапіў Украіну і некаторыя раёны Беларусі. З Тураўскага раёна калгаснікі пісалі: "Калі не дапаможаце, вымушаны паядаць сваіх дзяцей". У гэты час сярод вяскоўцаў хадзіла прыпеўка:

307

**Устань, Ленін, падзівіся,**  
**Як калгасы нажыліся.**  
**На варотах серп і молат,**  
**А ў калгасах поўны голад.**

Пагоршылася забеспячэнне прадуктамі і гараджан. Па сыравіннай базе прамысловасці таксама наносіўся ўдар. Нягледзячы на поўны правал палітыкі калектывізацыі, яна ўпарта працягвалася бальшавіцкім кіраўніцтвам самымі жорсткімі мерамі.

**ВАЙНА ДЗЯРЖАВЫ СУПРАЦЬ СЯЛЯН.** Людзі беглі з калгасаў, як з турмы. Былыя калгаснікі вярталіся да аднаасобнага жыцця, хоць мясцовыя ўлады літаральна душылі іх непасільнымі падаткамі, за невыкананне якіх пагражала канфіскацыя маёмасці. Былі выпадкі, калі бальшавікі абчышчалі бядняцкія хаты вольных хлебаробаў да трэскі і здымалі з гаспадароў нават фартухі, кашулі і штаны. Але і гэта не спыняла сялян. "Хопіць, — казалі яны, — пажылі ў калгасе, а зараз хочам пажыць вольна". Асабліва шмат людзей пакінула калгасы ў пачатку 1932 года, калі ад голаду вымірала абрабаваная Украіна. Калгаснікі часам ратаваліся тым, што расцягвалі калгаснае дабро. Якраз тады, у 1932 годзе, з'явіўся закон аб пяці каласках, які дазваляў кідаць галодных сялян у турму, калі яны падбіралі нават тое, што ў калгасе прападала. Калгаснікі беглі ў гарады, у Сібір, на Паўночны Каўказ, дзе жылося крыху лягчэй.

Каб яны не разбегліся зусім, уводзілася паш-

308

партная сістэма. Ніводзін вясковец пад пагрозай турмы не мог пакінуць месца жыхарства без пашпарта. А іх на рукі сельскім жыхарам не выдавалі. Так савецкае сялянства амаль на 30 гадоў ператварылася ў прыгонных бальшавіцкай імперыі, якая, быццам феадал, прывязала яго да зямлі. Назіраліся выпадкі масавага пераходу сялян праз мяжу на польскі бок. Яны сем'ямі беглі з сацыялістычнага "раю" — толькі б не памерці з голаду і не трапіць у лапы да чэкістаў. Бальшавіцкія ўлады вымушаны былі ўзмацняць пагранічную ахову і ствараць пагранічныя лятучыя атрады. У студзені 1932 года ў Асвейскім раёне была знойдзена ўлётка, у якой калгаснікі заклікаліся забіваць камуністаў, арганізоўваць партызанскія атрады, якім на дапамогу хутка прыйдуць еўрапейскія дзяржавы.

Толькі ў 1934 годзе бальшавіцкім уладам удалося больш-менш запрыгоніць беларускіх сялян. Рэпрэсіі прымусілі пайсці ў калгасы аднаасобнікаў — і калектыўныя гаспадаркі адразу ж пачалі задыхацца ад лішкаў рабочай сілы. Тады сялян у вагонах для цялят пачалі вывозіць на сталінскія новабудоўлі. Але і на шостым годзе калектывізацыі супраціўленне савецкім уладам не заціхала. У Чавускім раёне дзейнічалі партызанскія атрады, якія руйнавалі калгасы, а грамадскую маёмасць дзялілі паміж аднаасобнікамі. Фактычна з пачаткам калектывізацыі беларускае сялянства знаходзілася ў стане грамадзянскай вайны з бальшавіцкімі ўладамі.

Захар ШЫБЕКА

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

309

**ГВАЛТОЎНАЕ ЗАМАЦАВАННЕ КАЛГАСНАГА ПРЫГОНУ.** Да канца другой пяцігодкі (1937) у калгасы было загнана ўжо 87 працэнтаў сялянскіх гаспадарак Беларусі. У аднаасобнікаў заставалася толькі каля 5 працэнтаў плошчаў зямлі. Калгасы трымаліся на палачнай дысцыпліне. Бальшавікі злоўжывалі рабскай дармавой працай сялян. Нават у 1938 годзе калгаснікі пераважна ўручную аралі (на 79 працэнтаў), сеялі (на 85 працэнтаў), збіралі ўраджай хлеба (на 98), малацілі (на 55 працэнтаў). І толькі там, дзе калгасы ўзначальваліся выхадцамі з сялянства, жылося лепей. Такія кіраўнікі дазвалялі сялянам трымаць па некалькі кароў і нават коней, пашыраць сядзібныя надзелы. Але ў 1938 годзе з Масквы прыйшоў загад — спыніць парушэнні калгаснага статута 1937 года. І сялян пакідалі без коней, з адной каровай і на ўрэзаных сотках. Злосным парушальнікам калгаснага статута аказаўся ў Касцюковіцкім раёне і адзін са старшынь, які наладзіў у сваёй гаспадарцы вытворчасць клею і сетак.

Агульнае незадавальненне калгасным ладам не знікала. "Як былі паны, так і засталіся", — казалі людзі. Яны папракалі камуністаў, якія адабралі ўсю зямлю, забралі добрых людзей, а дрэнных пакінулі. Па меры набліжэння вайны бальшавікі націскалі на падатковы прэс. У маі 1941 года выйшаў загад аб абавязковай здачы дзяржаве кожным сялянскім дваром малака, мяса, бульбы, воўны, сена і гародніны. Калгасы з прадуктанарыхтоўкамі не спраўляліся.

310

Калектывізацыя — трагедыя беларускага народа. У выніку калектывізацыі адбылася беспрэцэдэнтная па сваіх памерах і выніках дэфармацыя сацыяльнай і эканамічнай структуры беларускай вёскі. Знік цэлы пласт найбольш гаспадарлівых і таленавітых земляробаў. Каго вынішчылі, каго саслалі. Большасць жа ўцалелых працавітых сялян паступова разбэсціліся калгаснай сістэмай бездакназнасці за вынікі калектыўнага гаспадарання. Калектывізацыяй бальшавікі наносілі смяротэльны ўдар па беларускай пераважна сялянскай нацыі. Пагаршаўся яе генафонд, якасць рэпрадуцыравання нацыянальнай эліты.

## 29.4. "Культурная рэвалюцыя"

**У ІДЭАЛАГІЧНЫМ ПАЛОНЕ ЧУЖЫНЦАЎ.** У 30-х гадах культура цалкам ставілася пад палітычны і ідэалагічны кантроль партыйных органаў. Творчая інтэлігенцыя штучна дзялілася на прыхільную савецкай уладзе і на непрыхільную.

**БАЛЬШАВІЦКАЯ СІСТЭМА АДУКАЦЫІ.** Вялікая ўвага надавалася падрыхтоўцы "новых кадраў пралетарскай інтэлігенцыі". З гэтай мэтай уся сістэма адукацыі наскрозь ідэалагізавалася. Яна павінна была выхоўваць моладзь у духу безумоўнай веры ў разумнасць рашэнняў кампартыі і ў геніяльнасць яе правадыроў. З 1929/30 навучальнага года ў БССР

311

уводзілася ўсеагульнае абавязковае навучанне дзяцей 8-гадовага ўзросту. Арганізоўвалася сістэма прафесійных школ. Але прыгожы бальшавіцкі дэкрэт не забяспечваўся матэрыяльна. Не хапала настаўнікаў, школьных будынкаў, сшыткаў, алоўкаў, пер'яў, а таксама падручнікаў, бо нацдэмаўскія былі забаронены. Настаўнікі па тры месяцы не атрымлівалі зарплаты, а ў шэрагу месцаў не маглі хадзіць на заняткі з-за адсутнасці абутку. Матэрыяльныя цяжкасці не зніклі ў школах на працягу ўсіх 30-х гадоў. Усеагульнае абавязковае навучанне мела фармальны характар. Так, сярод прызыўнікоў Добрушскага раёна ў 1938 годзе было выяўлена больш за 22 працэнты малапісьменных.

У 1932 годзе з 6 984 школ 6 269 былі беларускімі. У гэтым жа годзе ў школах уводзіўся брыгадна-лабараторны метад. Адзнакі выстаўляліся не асобным вучням, а брыгадзе, што вяло да абязлічкі. Дзіцячае самакіраванне адсоўвала настаўніка на другі план. Камуністычныя эксперыменты не выклікалі павагі да беларускай школы. Ад брыгадна-лабараторнага метаду ў далейшым удалося пазбавіцца, дык навалілія новыя беды.

Жорсткую атэстацыю на вернасць камуністычнаму рэжыму праходзілі з 1936 года настаўнікі і выкладчыкі. Ненадзейных забіралі, на тых, хто застаўся, заводзілі справы, каб увесь час трымаць пад страхам. У 1938 годзе кампраметуючы матэрыял меўся на 49 з 83 вы-

312

кладчыкаў Мінскага педінстытута і на 266 з 1 057 мінскіх настаўнікаў. Дарэвалюцыйныя кадры найбольш пацярпелі ад рэпрэсій. Выпускі савецкіх педінстытутаў яшчэ не задавальнялі попыту. А таму толькі каля 7 працэнтаў настаўнікаў БССР мелі вышэйшую адукацыю. Арышты нацдэмаў прывялі да таго, што беларускую мову і літаратуру не было каму выкладаць. Дзяцей прымушалі вывучаць не творы пісьменнікаў, а іх палітычныя памылкі.

**РУСІФІКАЦЫЯ.** Паступова набірала сілу русіфікацыя. Ужо ў плане выдання на 1935 год тыраж падручнікаў на рускай мове вызначаўся 230 тысячамі, а на беларускай мове — 119,5 тысячы. Беларусізацыя, калі і падтрымлівалася маскоўскімі бальшавікамі, дык толькі дзеля барацьбы з польскім уплывам. Польскія ды яўрэйскія школы перарабляліся ў беларускія, бо яны лягчэй русіфікаваліся.

І як можна было вывучаць ды ўжываць беларускую мову, калі за адно гэта бальшавікі абвяшчалі беларусаў нацдэмамі і садзілі ў турмы? Нехацяя загаворыш па-руску. Хадайніцтвы гараджан аб пераводзе беларускіх школ у рускія суправаджаліся выказваннем імкнення да больш грунтоўнага вывучэння твораў класікаў марксізму-ленінізму. Наймацнейшы аргумент для бальшавікоў! Незацікаўленасць у вывучэнні беларускай мовы стваралася і тым, што да канца 30-х гадоў усе 22 вышэйшыя навучальныя ўстановы і амаль усе 95 тэхнікумаў БССР перайшлі на рускамоўнае выкладанне.

# НЕ АБМІНУЎ ЁН БЕЛАРУСІ

Нават маючы велізарны збіральніцкі вопыт, С.Максімаў не мог стрымаць захаплення ад сапраўднай "оперы" -- беларускага вяселля. Ён прыводзіць адметнае, ад пачатку і да канца напоўненае рытуальнымі кампанентамі апісанне гэтай важнай у жыцці кожнага падзеі: "Спраўляецца своеасаблівы каравайны абрад. Жанчына, замясіўшы цеста, прымушае мужчыну вымесці венікам печ, потым пасадзіць каравай, г.зн. зрабіць бабскую справу. Той, хто садзіў каравай, падымае правую нагу і тры разы б'е ботам у край печы, каб прымусіць яе спячы лепш, інакш будзе нядобра маладым.

## САСНА КАРМІЛА, ЛІПА АДЗЯВАЛА

Калі вучаць печку, жанчыны падымаюць дзяжу да столі. Таго ж мужыка абвязваюць ручніком, каб быў падобны на бабу і ашукаў печку... Жаніха сустракае маці нявесты ў кажуху поўсцю наверх і з чарпаком у руках. Малады злазіць з каня, ліе ваду і кідае чарпак праз галаву, аддае каравай. Каравай гэты кожны павінен падняць і сказаць: "Наша вышэй". Маладая тут жа, таксама ў вывернутым кажуху. Маладым злучаюць рукі і паварочваюць іх разам тры разы. У хаце дзяўчы коснік здымаюць з галавы і даюць у рукі чорную баранковую шапку, якую маладая, два разы кінуўшы на падлогу, надзявае. Жанчыны галосяць. Нарэшце маладых выводзяць, садзяць на калёсы, пакрываюць абодвух вывернутым кажухом. Маладая, выязджаючы з бацькоўскай хаты, кідае праз галаву пірог, а пад'язджаючы да дому жаніха, кідае ўжо наперад сябе ў знак таго, што аб старым доме будзе захоўваць памяць і любоў, а тут думае заводзіць любоў зноў. У варотах маладых чакаюць запаленая салома і маці жаніха, таксама ў вывернутым кажуху. Маладая павінна ступіць на дзяжу, з дзяжы на сувой палатна, па якому і ўваходзіць у хату, дзе здымае шапку і завязвае бабскі ўбор -- намітку. Калі на другі дзень дзеляць каравай, маладых вядуць да калодзежа, дзе ім абліваюць ногі. Жонка нясе дадому вады і вылівае на рукі свёкру і свякрусе, потым падае ім ручнік, а астатнюю ваду вылівае на лаўку і выцірае яе. Гэта знак пакорнасці і гатоўнасці да будучай працы ў хаце мужа. Яна пакідае пірог і грошы ля таго калодзежа, дзе ёй для чэснага жыцця вымылі ногі. Без гэтых доўгіх абрадаў і вяселле не вяселле" (С.Максимов. "Куль хлеба").

Многія з абагульненняў С.Максімава ўспрымаюцца намі як хрэстаматыйныя ў дачыненні да апісання традыцыйнага сялянскага быту. Ён заўважае: "Беларусы аддаюць перавагу векавечнай даўніне і шануюць яе да гэтага часу як спадчыну продкаў, тых "дзядоў", якія прызнаюцца ўвасобленымі, жывымі духамі, і ў гонар якіх паўсюдна ўстанаўліваюцца асобныя святы". Прыводзіць аўтар і адно з апісанняў урачыстасці Дзядоў, прычым для нас каштоўныя не толькі этнаграфічныя падрабязнасці, а і майстэрскае адлюстраванне таго псіхалагічнага фону, той маральнай напружанасці, што абумовілі паводзіны ўдзельнікаў: "На Дзяды кожны дом для свайго апекуна-духадзеда пячэ бліны, коле кабана і варыць баршчы з салам, якіх бывае чатыры віды. Усе гэтыя стравы па чыгунках і на латках расстаўляюцца па лаўках. Выступае жывы дзед, самы стары, бярэ чарапок з вуголлем, як царкоўнае кадзіла, кладзе ў яго смалу і махае, каб ахапіць дымам стравы. Сядае ён потым за стол, кладзе на яго пугу і зачытвае самаробныя малітвы без складу і сэнсу. І бяда таму, хто адважыцца ўсміхнуцца: пад рукамі ляжыць і зброя для расправы. А бяссэнсавую і смешную малітву чытае стары перад кожнай стравай, пасля чаго ідзе лёгкі загул. Мяне запэўніваў гэты самы жывы вобраз і рэлігійная асоба крыўскага культу, старэйшына Нестаравага летапісу, што заблудзіўся ў беларускіх пушчах да нашых дзён, што маленькая сям'я выпівае ў гэты дзень не менш чвэрці гарэлкі" ("Крылатые слова").

Пераклікаюцца са сцвярджэннямі сучасных этнамузыколагаў заўвагі Максімава адносна самога бытавання песеннай традыцыі на Беларусі. Адметна, што яны дадзены з пункту гледжання аб'ектыўнага, не зацікаўленага ў перабольшванні і падмалёўцы падзей аўтара, які, апрача таго, маючы багаты вопыт вывучэння быту розных народаў, мог напрамую супастаўляць і параўноўваць: "... такі стан песеннай справы ў Вялікаросіі. Калі ж давялося перанесці назіранні ў **больш старажытны і зусім проціпастаўлены рускаму край**, які ёсць Беларусь... Беларус становіцца ў тупік пры патрабаванні песні ў сухім пераказе. Ён зразумець не можа, што песню можна зняць з голасу і весці яе пераказам як казку, ды прытым яшчэ так, што пры гэтым адсутнічаюць усе належныя абставіны: харавая падтрымка і вобразнае паралельнае прадстаўленне "в лицах" ("Крылатые слова").

Да ліку найбольш каштоўных для сучаснай фальклarыстыкі запісаў С.Максімава адносяцца яго разважанні аб дэманалагічных вераваннях беларусаў, і ў прыватнасці -- уяўленні аб існаванні **чура.** "На Беларусі чур да гэтага часу не забыты і карыстаецца асаблівай павагай. Ён лічыцца апекуном і захавальнікам граніц падземных уладанняў і яшчэ жыве на зямлі, як істота, якая можа ўзнагароджваць і караць, любіць і ненавідзець" ("Крылатые слова"). Згодна з запісам С.Максімава, чур -- гэта станоўчая, "справядлівая" дэманалагічная істота, якая дапамагае маці-зямлі ў вырашэнні заблытаных праблем цераспалосных шнуроў сялян. Чур мае выгляд драўлянага круглыша з умоўнымі знакамі сям'і. Яго нельга знішчаць, а, незнарок вырваўшы, трэба адразу ж замяніць другім, каб сударга не звяла рук. Максімаву даводзілася назіраць, з якім стараннем і асцярогай абворваюць гэтыя чуры, баючыся таго духа, што селіцца ў іх. С.Максімаў суадносіць вераванні ў існаванне чура з уяўленнямі аб духахпродках. Але найбольш яго прыцягвае разгляд замацавання за словам "чур" поглядаў беларусаў адносна скарбаў, уласнай маёмасці.

Даныя запісы збіральніка ўзнімаюць цікавыя, не закранутыя дасюль уяўленні аб існаванні "чура", суадносенне іх з культам продкаў, з дэманалагічнымі вераваннямі (постацямі дамавіка, памежніка і г.д.). Хочацца спадзявацца, што гэтыя унікальныя запісы Максімава скарыстаюць і фалькларысты, і мовазнаўцы для этымалогіі слоў тыпу "чары", "чурка" і пад.

Амаль кожную з кніг выдатнага пісьменніка-збіральніка Сяргея Васільевіча Максімава можна назваць энцыклапедыяй. "Куль хлеба и его похождения" -- поўны звод звестак аб земляробчай культуры ўсходніх славян. "Бродячая Русь Христа ради" -- небывалая зборка тыпаў падарожнікаў і бадзяг. "Крылатые слова" -- тлумачэнні многіх устойлівых выразаў, дарэчы, пасля выхаду гэтай кнігі само паняцце "крылатыя словы" хутка прыжылося, стала агульнаўжывальным. Апошняя яго кніга таксама свайго роду энцыклапедыя. "Нечистая, неведомая и крестная сила" -- усе віды забабонаў і абрадаў, што захаваліся ў побыце з часоў язычніцтва. І практычна ў кожнай абагульняючай кнізе -- радкі пра Беларусь. Акрамя таго, засталіся яго шматлікія артыкулы ў газетах, часопісах, дзе Максімаў дзеліцца сваімі ўражаннямі аб паездцы на захад Расіі. Сёння мы з яго спадчыны так мала ведаем і так многа страчваем.

Сяргей Васільевіч Максімаў пакінуў свой непаўторны след у беларускай фалькларыстыцы і этнаграфіі. Яго імя з поўным правам павінна заняць месца, якое належыць яму і толькі яму ў айчыннай культуры. Зразумела, гэты артыкул -- сціплы падыход да сур'ёзнай тэмы "С.В.Максімаў і Беларусь", якая яшчэ чакае свайго даследчыка.

**Закaнчэнне. Пачатак у № 3.**

**Таццяна ВАЛОДЗІНА.**

# КАЛІСЬ НА РАДЗІМУ ВЯРНУСЯ...

Беларуская эміграцыя пасля шматгадовага замоўчвання ды шальмавання прычакала-такі таго дня, калі з Бацькаўшчыны заміж папрокаў (часта беспадстаўных) чуе на свой адрас і словы ўдзячнасці, бачыць выразнае памкненне да супрацоўніцтва. Пачынаюць спраўджвацца мары пісьменнікаў-эмігрантаў: іхняй творчасцю зацікавіліся на Радзіме, дзяржаўныя выдавецтвы рупяцца пра выданне іх кніг. У 1992 годзе пабачыла свет анталогія беларускай эміграцыйнай паэзіі "Туга па Радзіме" (укладальнік Б. Сачанка), куды патрапілі вершы пятнаццаці паэтаў. Нагадаем, што падобнае выданне выходзіла ў свой час і за мяжой ("Ля чужых берагоў", Мюнхен, 1955). У абедзвюх анталогіях годна прадстаўлена паэзія Міхася Кавыля, месцамі выдання кніг якога былі не толькі розныя гарады, розныя краіны, але і розныя кантыненты -- Рэгенсбург, Нью-Йорк, Манчэстэр, Саўт-Рывер... У апошнім, дарэчы, паэт стала жыве з 1950 года. А паходзіць М. Кавыль з песеннага слуцкага краю, з вёскі Покарша, дзе і нарадзіўся 1 снежня 1915 года.

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" падрыхтавана да друку кніга выбранай паэзіі Міхася Кавыля "Міжагнёўе", вершы з якой прапануюцца.

**Міхась СКОБЛА**

**Міхась КАВЫЛЬ**

## ПРАРОЦТВА

**Я маю надзею і мрою:**
**Калі-нікалі ў завірусе**
**Пад марш пераможны герояў**
**І я на радзіму вярнуся.**

**Вярнуся, як казачны рыцар,**
**У латках, з кійком, з барадою...**
**І дзеці за мной падзівіцца**
**Будуць хадзіць чарадою.**

**Я выму з жабрачае торбы**
**Скарынку і кіну... "Лавеце!"**
**За гэта старэчаму горбу**
**Каменнем аддзякуюць дзеці.**

**Тады я прысяду ля хаты**
**І звонка удару у ліру:**
**У маіх праслядоўцаў кудлатых**
**Зранкі разбягуцца шырай.**

**Я ім раскажу аб героях,**
**За край, што зляглі ў завірусе...**
**................................**
**Я маю надзею і мрою:**
**Калісь на радзіму вярнуся...**

*Бельгія, 1947.*

## МАКІ

**Можа сэрцу мне даць адпачынак**
**На аблоні суцішных вятроў!**
**Макі, макі на Монтэ- Касіна**
**Беларуская жывіць кроў.**

**Хай квітнеюць на вояў магілах,**
**Мне не шкода, люблю я кветы.**
**Але бачу: арол белакрылы**
**Па-над макамі ў небе застыў.**

**Беларусаў ён душы вартуе,**
**Каб да Бога са скаргай не йшлі,**
**Што за справу не тую святую,**
**За чужую палеглі ў зямлі.**

**Не, я сэрцу не дам адпачынак**
**На аблокі суцішных вятроў.**
**Макі, макі на Монтэ- Касіна**
**Беларуская жывіць кроў...**

*1953.*

## БЕЛАРУСЬ

**Беларусь ты мая, Беларусь,**
**Неугасная зорка Венера,**
**Я агнём тваім вечна гару,**
**У тваё уваскрошанне веру.**

**У крывава-чырвоным вянку**
**Не счарнелі пялёсткі шыпшыны.**
**Бачу: госці на Нёман-раку**
**Прыляцелі з далёкай краіны...**

**Вырай доўгачаканы расце.**
**Груганнё закрычала над лугам.**
**А у тых белакрылых гасцей**
**На грудзёх залатыя кальчугі.**

**Беларусь ты мая, Беларусь,**
**Неугасная зорка Венера,**
**Я агнём тваім вечным гару,**
**У тваё уваскрошанне веру.**

*1953.*

## З ДАРОГ

**Ля чужое хаты стаю, малюся,**
**Адпачыць каб пусцілі з дарог.**
**Туманы паснулі -- можа з Беларусі! --**
**Ля маіх акрываўленых ног.**

**Туманоў Радзімы сонца не спраменіць,**
**Не развеюць ветры навальніц.**
**Ля чужое хаты стану на калені,**
**Упаду ля роднай хаты ніц.**

*1955.*

## ДЗЕНЬ ТОЙ ПРЫЙДЗЕ

**Вельмі цяжка прарочыць,**
**адгадаць Яго прыйсце --**
**Ці тады, як зайграе**
**агнём зялёным лісце;**
**Ці тады, як падпаляць**
**арабіны сініцы,**
**Ці тады, як апрануць**
**панцыр сіні крыніцы..**
**Ці у снежні, ці у маі,**
**Але прыйдзе Ён, знаю.**

**Дзень той прыйдзе, як сонца**
**із начнога блукання,**
**Дзень той прыйдзе, як песня**
**маладога кахання,**
**Што хвалюе і ўзносіць,**
**і чаруе й трывожыць...**
**Дзень вясновы Сакавіковы**
**не прыйсці не можа.**

**Толькі трэба чакаць,**
**Толькі трэба гукаць.**
**Так чакаць, як ніхто**
**не умее чакаць.**
**Так гукаць, каб пачуў,**
**каму трэба пачуць:**
**Маці наша зямля,**
**Што завуць Беларусь,**
**Што не раз праваджала упрочкі,**
**упрочкі зару,**
**Што ў сузор'і крывавым счарнела.**

**Так гукаць, каб душа**
**адляцела ад цела**
**У таго ключара,**
**што прысвоіў ключы**
**Ад Крыніцы Святой,**
**дзе ўсіх песняў пачын...**

*15.2.1963.*

## ЗІМА

**Снегу белая гушча**
**У жорнах ветру заенчыла**
**Пасівелая пушча,**
**Перад бурай укленчыла.**

**Маразішча балюча**
**Коле дзідамі колкімі;**
**Пранізаў снег сыпучы**
**Ледзянымі іголкамі.**

**Праз завеі, віхуры**
**Сонца землю не ўбачыла.**
**Абняліся пад скурай**
**Доля воўка з сабачаю.**

*1974.*

## ЖУРАЎЛІ

**Із далёкай заморскай зямлі,**
**Дзе сады зелянеюць узіму,**
**Без трывогі ляцяць жураўлі**
**На сваю дарагую радзіму.**

**Каля Нёману, лесу наўскрай,**
**Адкурлычуць прыгожае лета,**
**А увосень у сонечны край**
**Зноў у вырай у эскарце дзетак.**

**А куды мне падацца, куды!**
**Ці ж навек прысмактала чужына!**
**Дзе напіцца жывое вады,**
**Камень цяжкі каб з сэрца нізрынуў!**

**Жураўлі, мае сёстры, браты,**
**Як не выстаю, сум мо задужыць,**
**Па дарозе ў Святую Святых**
**Захапеце з сабой маю душу.**

*1976.*

## ГАЛАШУ, ЯК УМЕЮ

**Радаводных карэнняў маіх**
**Не знайсці у гісторыі следу...**
**А ні бацьку майму, ні дзеду,**
**Толькі мне у таежным краі**
**Давялося канцлагер зведаць.**

**Толькі я за чужыны сталом**
**Роспач радасцю разбаўляю:**
**Часта Случчыну ўспамінаю**
**І блакітна-сівым Кавылём**
**У ногу з Музаю кавыляю...**

**Галашу, як умею, пра**
**Бел-чырвона-белую зорку --**
**Беларусі долю, горкую...**
**.........................**
**І не змоўкну, аж покуль мой прах**
**На нярoдным ляжа пагорку...**

*1990.*

*СУСТРЭЧЫ НА ВАЕННЫХ ДАРОГАХ*

# ТРАГЕДЫЯ ТОДАРА ЛЕБЯДЫ

ТОДАР ЛЕБЯДА не вызначаўся ні фенаменальнаю сілай, ні якойколечы фізічнай асаблівасцю. Наадварот, ён нічым не адрозніваўся ад самых звычайных людзей. Кантраст яго натуры выяўляўся ў іншым. На рэдкасць просты і, можна сказаць, бездапаможны, на першы погляд, Лебяда быў гігантам таленту і вызначаўся багаццем душы. Нарадзіўшыся ў пераломную эпоху і жывучы ў гады крывавай дыктатуры, таленавіты паэт і драматург быў прыдушаны і амаль поўнасцю ізаляваны ад грамадства. Вялікі патэнцыяльны скарб яго нацыянальнай патрыятычнай творчасці доўгія гады быў ад нас пахаваны, закапаны. І толькі вайна, зліквідаваўшы жорсткую цэнзуру і павальны шпіянаж ("стукацтва"), стварыла, як ні дзіўна, магчымасць хоць часткова распрастаць яму крылы. Тодар Лебяда быў адкрыццём не толькі для нас, людзей-заходнікаў. Мільёны ўсходніх беларусаў таксама толькі ў часе вайны змаглі ўбачыць, які незвычайны чалавек жыве сярод іх і творыць несмяротныя помнікі літаратуры.

***

Памятаю, як сёння, п'есу Тодара Лебяды "Загубленае жыццё", выдатна выкананую віцебскім тэатрам. Перапоўненая зала зачаравана глядзела на сцэну.

Здавалася, усе сэрцы зліліся ў адзіным рытме, у такт дынамічнай, вясёлай музыцы і песні ў беларускай сялянскай хаце, дзе збіраліся госці. Усё тут было, як і ў нас дома: накрыты белым абрусам стол, абразы з ручнікамі на покуці, завешаныя фіранкамі вокны, лямпа над сталом і заможны пачастунак на стале, вясёлыя госці на лавах. А пасля заружавелыя маладзіцы і дзяцюкі завіхрылі ў рытме агністай лявоніхі, беларускай полькі. Вышытыя рукавы, каўняры сарочак, па-мастацку вытканыя (рукамі мамы, сястрычкі або ўхажоркі) паясы, каляровыя хусткі замігцелі ў вясёлкавым патоку нястрымнага руху, заліхвацкай весялосці, бурлівага маладога жыцця.

І раптам усё заціхла, сцэну пакрыла цемра. Паступова, як ад пажару, усё заліла чырвань. На яе фоне вырысавалася агромністая сетка павуціння і на ёй жахлівы, гіганцкі чорны павук... У ім растапілася і знікла радасць, замерла жыццё. Пачалася трагедыя здзеку і нішчэння сялянскай гаспадаркі і сям'і. Сэрца раздзірала пагібель ні ў чым невінаватых людзей. Гледачы ў зале плакалі, многія наўзрыд. У мяне і маіх суседзяў нястрымна цяклі слёзы. Карціна ўрэзалася ў душу на ўсё жыццё.

Такой была першая сустрэча мінскага гледача з творчасцю чарадзея-драматурга і паэта. Яго прозвішча (псеўданім) з афіш і плакатаў перайшло ў сэрцы і вусны, на старонкі газет і часопісаў, на хвалі радыёперадач.

***

Сустрэліся мы выпадкова ў сталоўцы, дзе можна было атрымаць талерку жытняй незаскваранай заціркі. Хтосьці з маіх сяброў (Рагуля ці Орса), паказваючы на каржакаватага бландзіна, сказаў:

-- Глянь на той столік, што каля дзвярэй. Знаеш, хто там сядзіць?

Я зірнуў, але нікога знаёмага не ўбачыў і абыякава адказаў:

-- Не, не знаю...

-- Гэта ж Тодар Лебяда!..

Тады я з цікавасцю абярнуўся ў той бок і вырашыў неадкладна скарыстаць выпадак, тым больш, што талерка ўжо была пустая. Журналісцкая практыка выпрацавала ў мяне пэўную рашучасць і смеласць у адносінах з людзьмі. Я падышоў да таго століка, дзе сядзеў яшчэ Тодар Лебяда з жонкаю, і адрэкамендаваўся, выказваючы жаданне з ім пазнаёміцца.

Паэт устаў, падаў руку і, паказаўшы на суседку, сказаў:

-- Гэта мая жонка -- Вера.

Перада мною была мілавідная, нават абаяльная маладая жанчына сярэдняга росту, даволі шчуплая і зграбная. Авальны выразны яе тварык быў змізарнелы, як бы крыху разгублены.

-- Калі вы скончылі "абедаць", -- запрапанаваў я, -- то можа пройдземся над Свіслаччу? Там спакайней можна пагутарыць.

-- Даруйце, -- меладычна і ціха сказала Вера. -- У нас грудное дзіця, і надышла пара яго пакарміць...

-- Вось бачыце, -- дабавіў Лебяда. -- Дзіця не вінавата, што мы яго не ў адпаведную пару спарадзілі...

Голас у яго быў зраўнаважаны, спакойны. Выраз твару адкрыты, шчыры. Гэта быў чалавек нябрыдкі, але, як кажуць, зроблены "з-пад сякеры". Больш змахваў на рабочага або селяніна, чым на літаратара. Прысадзісты, плячысты, бадай, ніжэй сярэдняга росту, паэт меў выгляд чалавека смелага і рашучага. Рухаўся ён разважна, без мітусні і спешкі. На гэтым мы расталіся.

Пры наступнай сустрэчы я расказаў Тодару Лебядзе пра сябе, хто я, адкуль, чаму знаходжуся ў Мінску. Шчыра і аргументавана пахваліў яго драму, што ішла ў тэатры. Запытаўся, над чым ён працуе цяпер.

-- Што ж, -- сказаў паэт, -- ідзе вайна.

Сёння -- галоўная праблема -- выжыць. Лепшыя людзі гуртуюцца ў цэнтры, каля кіраўніцтва. Хоць не ўсе жадаючыя могуць гэта зрабіць. Мінск, як бачыце, разбіты, разграблены папярэднімі і новымі акупантамі. Многія з нас страцілі ўсё і, як гаворыцца, маем тое, у чым стаім... Адносна драмы, дык я рад, што вы яе так ацанілі. Гэта, папраўдзе кажучы, кавалак майго жыцця. Ды не толькі майго. Гэтую драму ці, лепш сказаць, трагедыю перажылі мільёны беларускіх сялян. Астаўся ў нашай гісторыі яшчэ адзін чорны і крывавы след... Вам, заходнім беларусам, цяжка ўсё гэта зразумець. Вы не адчулі на ўласнай шкуры жахлівай калектывізацыі, у душы не асталося вечна крывавіўшай раны. Вы не перажылі страты ўсяго нажытага цяжкай працай за ўвесь век. Вас не выганялі з роднай хаты, не вывозілі, як якогась бандыта, пад канвоем аўтаматчыкаў і сабак на пагібель у тайгу і бязлюдную тундру...

Гаварыў ён з глыбокім смуткам і цяжкім болем на твары і ў душы. Адчувалася нейкая надломленасць.

-- Вы не думайце, што я вораг савецкай улады, -- працягваў Лебяда. -- Мы ўсе ў юначым веку былі гарачымі прыхільнікамі і барацьбітамі за перамогу камунізму на ўсёй планеце. Я, як і ўся моладзь, гатоў быў жыццё аддаць за ідэалы пануючай партыі. Аднак жорсткая праўда рэальнага жыцця многіх ацверазіла. Мы зразумелі, што ўвесь народ быў крывадушна ашуканы і бязлітасна эксплуатаваны. Прыбытак мазольных рук чалавека поўнасцю забіралі крамлёўскія верхаводы і іх паслугачы. Колішні гаспадар зямлі і яе пладоў не меў права нават каласкоў з поля пазбіраць, нарваць бацвіння для свайго парасяці.

Цяжка было слухаць гэтага таленавітага, сумленнага чалавека, драматурга і паэта Божай ласкі. Плакала ад болю душа, і дзесь глыбока таіўся страх, каб жыццё гэтага замучанага голадам і прымусам ідэаліста не абарваў інфаркт... І я паспрабаваў перавесці гутарку на іншыя тэмы.

-- Вядома... Вам цяпер, як і ўсім, цяжка жывецца... Але...

-- Ізноў жа вы не зусім мяне зразумееце. Дазвольце зрабіць можа не зусім трапнае параўнанне. Я цяпер як той месяц: адна старана светлая, ясная, а другая -- чорная, цёмная, палохае сваім холадам і смяротнай пустэчаю. Так і ў мяне. Мы з жонкаю і дзіцем жывём надгаладзь. Дапамогі шукаць няма дзе і няма ад каго. Бо ідзе вайна, і цяпер усім цяжка: і ў вёсцы, і ў горадзе. Адначасна (парадокс!) я чуюся лёгкім, свабодным, незапалоханым чалавекам. Магу гаварыць і пісаць тое, што думаю, чаго спадзяюся. І пішацца мне лёгка, свабодна. Бо за мной не сноўдаецца стукач, няма вечнага страху, што нехта штосьць набрэша ў энка-вэ-дэ, і памінай, як звалі!

-- Страшна падумаць, як можна чалавеку ўсё жыццё так цярпець...

-- Гэта не пакуты, а "шчасце" было. Пакутавалі і гінулі ад голаду і кулі тыя мільёны, якія няведама за што трапілі ў лагеры на Калыму, у Караганду, Запаляр'е. Тыя, якіх, выгнаўшы з вагонаў, гналі ў тайгу альбо голую пустыню і, забіўшы ў зямлю чатыры калы, аб'яўлялі: "Тут будзеце жыць!" Падумайце толькі: ад Масквы да Кітая, Камчаткі, японскіх берагоў -- лагеры, лагеры, лагеры... Аўтаматныя вышкі і калючыя драты закавалі ў няволю агромныя прасторы калоніяў, сотні крывава заваяваных народаў. Усё гэтае насельніцтва прыдушана рабаўладальніцкай сістэмай. Селянін не мае права пакінуць сваю камуну, бо яму ніколі, нідзе не выдаюць пашпарта. А бяспашпартнага, абарванага калгасніка пад канвоем адпраўляюць назад, пад нагляд мясцовага аператыўніка. Мільярдныя затраты ідуць на лжывую прапаганду, якая тысячамі мегафонаў і газет крычыць пра "найвялікшую дэмакратычнасць" у "рабоча-сялянскай" краіне, пра дабрабыт і "росквіт" культуры соцень народаў.

Слухаў я, і ўсё нутро дрыжэла ад жаху і болю, бо неверагодная праўда была ў словах гэтага чалавека. З небывалым цяжарам на душы развітаўся я з паэтам. Не было патрэбы гаварыць, што нікому пра нашу гутарку не варта ведаць, бо не сакрэт, што тысячы бальшавіцкіх агентаў шныраць па Беларусі і што ўсе яны прывучаны страляць з-за вугла...

Сябры Лебяды былі і маімі сябрамі (др. Орса, Х.Ільяшэвіч, Я.Калубовіч, У.Родзька, Л.Геніюш, Катковіч і інш.). І мы даволі часта сустракаліся. Усе мы жылі небагата, але, як гаворыцца, дзяліліся нават апошнім кавалкам хлеба. Матэрыяльнага дастатку амаль што не было, але супольныя ідэі, імкненні і адраджэнская дзейнасць акрылялі нас. Хоць з боку немцаў напатыкалі не падтрымку, а перашкоды.

Я рабіў, што мог, каб забяспечыць гэтую цудоўную сямейку малаком і чым толькі ўдавалася, каб падтрымаць кволае дзіцятка. Лебяда пазнаёміў мяне са сваёй паэтычнай творчасцю, нарысамі ў прозе. Характэрна, што ў сваёй літаратурнай творчасці ён ніколі не дапускаў неахайнасці, нядбаласці. Яго проза і вершы вызначаліся дапрацаванасцю, чысцінёй мовы і стылю, завершанасцю і эстэтыкай. Але яго талент марнаваўся. У пагаладным Мінску недакормленае дзіця памерла. Вера хадзіла як цень. Мы дрыжэлі за яе жыццё. Не было надзеі на якуюсь рэальную дапамогу, хоць нешта рабіла ў гэтым напрамку "Самапомач". Ці мог тварыць у такіх абставінах нават такі здольны літаратар, як Тодар Лебяда?!

Пасля II Усебеларускага кангрэсу эвакуацыя раскідала нас па розных кутках Беларусі і ўсяго свету. Больш мы з Тодарам Лебядой, як і з Н.Арсенневай, С.Хмарай, А.Орсай і многімі іншымі, не сустрэліся.

**Аляксей АНІШЧЫК.**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ








**У Дзяржаўным мастацкім музеі праходзіць цікавая выстава каліграфіі "ЛІТАРТ". На ёй прадстаўляюць свае творы 9 розных па светаадчуванню, узросту і падыходу да творчасці мастакоў.**

**Агульнае для ўсіх іх выказаў Павел Семчанка ва ўступным артыкуле, што размешчаны ў каталогу выставы: "Чысціня пісьма -- чысціня душы". Павел Семчанка -- вядомы мастак, пра якога наша газета пісала падчас выхаду ў свет ягонай прыгожай кнігі "Мелодыі каліграфа". Павел Семчанка па-ранейшаму выкладае ў Акадэміі мастацтваў і нядаўна атрымаў навуковае званне прафесара. Творы Паўла Семчанкі "Вецер", "Ружы", "Усё лятуць і лятуць тыя коні" (па матывах вершаў М.Багдановіча), што экспануюцца на выставе, вельмі прыгожыя. Яны заварожваюць, уцягваюць у імклівы танец ліній. Рыска, лінія становяцца мастацкім вобразам.**

**Уладзімір Басалыга прадставіў некалькі прац з серыі "Мова наша родная", якая выканана ў тэхніцы каляровай літаграфіі. Ягоныя працы -- гэта фантазія на тэму беларускай азбукі. Усе творы на выставе ў мастацкім музеі сцвярджаюць адно: каліграфія -- элемент моўнай культуры і прыгожа напісаная літара -- гэта элемент мастацтва.**

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы П. СЕМЧАНКІ "Развітанне з радзімай" і У. БАСАЛЫГІ "Літара І" з серыі "Мова наша родная".**

## ВЫДАННЕ УНІКАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ ЗАВЕРШАНА

Выдавецтва "Юнацтва" завяршыла выпуск 15-томнай "Бібліятэкі дзіцячай літаратуры" народаў былога СССР. Апошняй чытачы атрымалі кнігу "Зорны карагод", якая знаёміць з творамі 48 найбольш вядомых пісьменнікаў Расіі.

Варта зазначыць, што літаратуры кожнай рэспублікі былога СССР прысвечаны асобны том. Аформілі іх таксама нацыянальныя мастакі.

СССР распаўся, але літаратура, як духоўны набытак, не мае межаў. Яна ўзбагачае і будзе ўзбагачаць многія пакаленні, знаёмячы з творчымі скарбамі народаў-суседзяў і сяброў.

Ідэя стварэння і выпуску бібліятэкі (як і шэрагу іншых) належыць дырэктару выдавецтва, вядомаму пісьменніку Валянціну Лукшу. Дарэчы, аналагічнага выдання няма больш нідзе. "Юнацтвам" праведзена вялікая арганізацыйная і творчая работа. У працы над падрыхтоўкай падрадкоўнікаў, перакладамі твораў на беларускую мову прынялі ўдзел многія вядомыя пісьменнікі былых саюзных рэспублік, лепшыя творчыя сілы Беларусі.

На гэтым выдавецтва не спыніла выпуск фундаментальных серый. Ужо выдадзены два тамы "Бібліятэкі замежнай дзіцячай літаратуры" (запланавана ў 30 тамах). Распачата і "Бібліятэка беларускай дзіцячай літаратуры" (выйдзе ў 10 тамах). Выданне гэтых бібліятэк ажыццяўляецца ў Беларусі ўпершыню. Разам усе тры бібліятэкі складуць 55-томнае выданне лепшых твораў пісьменнікаў свету для дзяцей.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ.**

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# ШЭДЭЎРЫ НА МАРКАХ

Філатэлістычныя калекцыі беларускіх збіральнікаў марак папоўніліся новымі цікавымі мініяцюрамі. Пошта рэспублікі выпусціла ў абарачэнне даўно чакаемую серыю марак, прысвечаную беларускім мастакам. У свеце філатэлістаў ужо даўно ў модзе тэма -- жывапісу на марках. Не кожны мае магчымасць наведаць вядомыя карцінныя галерэі свету, каб убачыць шэдэўры пэндзля вялікіх майстроў. Сабраныя ж маркі на гэтую тэму дапамагаюць "наведаць" любы музей свету не выходзячы з дому. Беларускія філатэлісты мелі ў сваіх калекцыях ўсяго некалькі марак, на якіх былі рэпрадуцыраваны карціны беларускіх майстроў пэндзля. Іх нямнога. Гэта вядомая серыя марак пошты былога СССР "Жывапіс Беларусі", што складаецца з пяці мініяцюр з рэпрадукцыямі палотнаў І.Хруцкага "Партрэт жонкі з кветкамі і фруктамі" (1839 год) (на марцы ініцыялы Хруцкага дадзены як І.Ф.), У.Бялыніцкага-Бірулі "Ранняя вясна" (1912 год), Я.Зайцава "Юны партызан" (1943), М.Савіцкага "Партызанская мадонна" (1967) і В.Цвіркі "Збожжа ўбрана" (1972). З іншых "карцінных" выпускаў пошты былога Саюза можна ўпамянуць марку з серыі "Кветкі ў творах жывапісу" з рэпрадукцыяй карціны І.Хруцкага "Кветкі і фрукты" (1839), якая захоўваецца ў Дзяржаўным рускім музеі. Творам гэтага беларускага мастака "пашанцавала" ў філатэліі. Яго карціны тройчы паказаны на паштовых мініяцюрах. У 1986 годзе, адзначаючы 100-годдзе Траццякоўскай галерэі, пошта Рэспублікі Мадагаскар выпусціла серыю марак з шэдэўрамі гэтага музея. На адной з марак серыі паказана рэпрадукцыя карціны І.Хруцкага "Кветкі і гародніна" (1839).

Новы выпуск беларускай пошты складаецца з трох шматкаляровых мініяцюр, выкананых у арыгінальнай форме. Серыю адкрывае марка, прысвечаная Фердынанду Рушчыцу (1870--1936), ураджэнцу Валожыншчыны, жывапісцу, графіку, тэатральнаму дэкаратару і педагогу. Яго творчасць звязана з жыццём Беларусі, Літвы і Польшчы. Ф.Рушчыц вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў у І.Шышкіна і Куінджы, быў прафесарам Школы прыгожых мастацтваў у Варшаве, Кракаўскай Акадэміі мастацтваў, аддзялення прыгожых мастацтваў Віленскага універсітэта. Партрэт мастака паказаны на фоне яго вядомай карціны "Зямля" (1898), што захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве. У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ёсць адна карціна Ф.Рушчыца "Ля касцёла" (1899).

На наступным паштовым знаку гэтай серыі -- партрэт беларускага жывапісца і скульптара, графіка і фалькларыста Язэпа Драздовіча (1888--1954). У пачатку стагоддзя Язэп Драздовіч вучыўся ў Віленскай мастацкай школе, выкладаў маляванне ў школах Заходняй Беларусі, афармляў кнігі, стварыў графічную серыю малюнкаў беларускай замкавай архітэктуры. Ім створана серыя карцін аб сярэдневяковай Полаччыне. У 1940 годзе мастак аформіў серыю малюнкаў аб прыродзе Беларусі. Скарынінская серыя работ створана мастаком таксама ў 1940 годзе. На марцы паказана яго вядомая карціна "Пагоня" (Пагоня Ярылы). Язэп Драздовіч ураджэнец Глыбоцкага раёна.

На апошняй марцы паказана карціна "Дарогай жыцця" (1934 год) беларускага і літоўскага жывапісца і графіка П.Сергіевіча (1900--1984). Сергіевіч вучыўся на мастацкім факультэце Віленскага універсітэта, у Кракаўскай Акадэміі мастацтваў. Стварыў серыю партрэтаў "Беларускія народныя тыпы" (1930). У сваёй творчасці ўзнаўляў гістарычнае мінулае Беларусі -- работы аб Скарыне, Каліноўскім -- многа твораў прысвяціў купалаўскай тэме, расказваў аб прыродзе роднай зямлі.

Усе тры маркі новай серыі аднолькава аформлены -- на фоне мастацкага палатна, пэндзляў, перавітых стужкай колераў дзяржаўнага флага рэспублікі -- партрэт мастака. У дзень выхаду марак у паштовае абарачэнне, на Мінскім паштамце было арганізавана спецыяльнае гашэнне, штэмпелем "Першы дзень" марак гэтай серыі. Быў таксама выпушчаны спецыяльны канверт "Першы дзень", які аформіў мастак Л.Варэца.

**Леў КОЛАСАЎ.**



# СКАРБЫ ЦЭНТРА "СКАРБНІЦА"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

-- Адзенне для артыстаў і проста для звычайных заказчыкаў толькі невялікая частка нашых вырабаў, -- гаворыць Мікалай Тарлецкі. -- Па паслугі ў цэнтр звярталіся пасольствы Рэспублікі Беларусь у Швейцарыі, Францыі, Расіі, для якіх мы шылі шторы на вокны. А яшчэ вышываем ручнікі, вырабляем старадаўнія прадметы сялянскага побыту. Тут і розныя коўшыкі, і шкатулкі, і сувеніры, пляцём саламяныя капелюшы, робім лялькі. Прадпрыемства знаходзіцца ў Мінску. А гэта выгадна не толькі для мінчан, але і пакупнікоў-замежнікаў, якія з задавальненнем набываюць нашы вырабы.

Іх рэкламаваць не трэба. Цэнтру прысуджана "Залатая зорка якасці". Уладальнікаў яе ва ўсім свеце нямнога.

-- Нам бы ганарыцца гэтым, -- гаворыць Мікалай Пятровіч, -- ды выйшла няёмка. Па зорку трэба ехаць у Іспанію, а мы не маем грошай на білет -- 2 тысячы долараў. Сума для прадпрыемства вялікая. Ці не лепей затраціць яе на сыравіну?

Што ж гэта за такое прадпрыемства, да паслуг якога звяртаюцца знакамітыя артысты, катэгорыя людзей, якія і добра разбіраюцца ў модзе, і, часам, капрызныя ў падборы адзення, мяняюць яго ледзь не перад кожным выступленнем?

Цэнтру ўсяго два з паловаю гады. Але створаны ён не на пустым месцы. Некалі ва ўсім былым Саюзе добра ведалі Навукова-даследчую мастацка-эксперыментальную лабараторыю ў Мінску. З ёй супрацоўнічалі ўсе рэспублікі. У 1992 годзе лабараторыя была пераўтворана ў Цэнтр беларускіх народных рамёстваў "Скарбніца".

Засталося старое абсталяванне, фактычна не змяніўся і калектыў. І сёння мы ўбачылі дзесяткі людзей, што некалі пачыналі працаваць літаральна з першага дня арганізацыі лабараторыі: Людміла Падабед, Наталля Нядзвецкая, Людміла Тарасава, іншыя. Дык ці не адбылася толькі змена шыльды?





-- Не, -- адказвае дырэктар Цэнтра. -- Мы займаемся прапагандай народнага мастацтва, мастацкіх рамёстваў Беларусі. Кожны, хто ўсім гэтым цікавіцца, можа непасрэдна на прадпрыемстве знайсці так званы напрацаваны матэрыял: і ў слайдатэцы (4 868 штук), і ў картатэцы (13 252 адзінкі), і ў альбомах (78 штук), і ў кніжках, часопісах... Фактычна гэта прадпрыемства на сённяшні дзень з'яўляецца адзінай у нас установай, якая праводзіць комплекс навукова-даследчых работ у галіне гісторыі, сучасных праблем беларускага народнага мастацтва, мастацка-эксперыментальных прац па аднаўленню і развіццю промыслаў, тэхнікі беларускіх мастацкіх рамёстваў.

На першы погляд, занадта па-навуковаму выказаўся Мікалай Пятровіч. Накшталт "займаемся прапагандай народнага мастацтва" ці "ствараем вырабы ў традыцыйным стылі". Але давайце пагутарым з супрацоўнікамі Цэнтра, уважліва ўгледземся ў вышыўку, крої адзення, або ў роспіс сувеніраў і адразу ўспомнім, што гэта мы недзе даўным-даўно сустракалі, знаходзілі ручнікі бабуль з арыгінальнай вышыўкай, на гарышчы валяўся саламяны капялюш яшчэ прадзеда, якія цяпер плятуць майстрыхі, ці робяць роспіс коўшыкаў-чарпакоў майстры "Скарбніцы" ў стылі мінулых стагоддзяў. Праўда, нешта ўносіцца і сваё, кожнаму супрацоўніку дадзена на гэта права, але, як падалося, у рамках, у стылі нашага нацыянальнага беларускага.

Напрыканцы знаёмства з Цэнтрам беларускіх народных рамёстваў падумалася: пабалей бы нам такіх прадпрыемстваў. Вялікую справу робяць яны. Не даюць нам сёння забыць аб тым, што мы маем багатую народную спадчыну, якую трэба і цаніць, і шанаваць, і аднаўляць.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ (1—8 стар.): майстар пляцення з лазы Галіна САПУН і мастак роспісу па дрэве Святлана ЛУЖКОЎСКАЯ; у ткацкім цэху Цэнтра; вырабы прадпрыемства.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Родныя шукаюць дзяцей і ўнукаў **ПРАТАСЕНІ Антона Іосіфавіча**, які нарадзіўся ў вёсцы Замошша Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Даводзіцца родным дзядзькам **ПРАТАСЕНІ Івану Якаўлевічу**, 1914 года нараджэння.

**ПРАТАСЕНЯ Антон** выехаў у ЗША ці ў Канаду ў 1917--1918 гадах ва ўзросце прыкладна 20 гадоў. Ён да 50-х гадоў дасылаў пісьмы свайму пляменніку **ПРАТАСЕНІ Івану Якаўлевічу**, які цяпер пражывае ў горадзе Магілёве па адрасу: **г.Магілёў, вуліца Баха, дом 12, кв. 66, тэлефон 222-856.**

Калі хто-небудзь ведае пра лёс родных, просім паведаміць на адрас:

**220004, Беларусь, г.Мінск, вул. Заслаўская, 25, кв. 351. КІРЫК Нэлі Іванаўне, тэл. 26-88-38.**


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77.) Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 4. Падпісана да друку 23. 1.1995 г.